



# Рэгіянальная газета. Rh.by




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

28 лістапада 2014 года №48 (1022)




* Што прынясе год Сіняй Драўлянай Казы
* Як выбраць найлепшы падарунак і дзе яго набыць

с. 20-21



✓ **Эколаг бачыць хібы ў праектаванні свінакомплексу ў Мойсічах**

✓ Дзве чытачкі "РГ" агулам сабралі 129 подпісаў гараджан, якіх непакоіць меркаванае будаўніцтва

✓ Грамадскае абмеркаванне – 1 снежня ў 18:00 у малой зале Маладзечанскага райвыканкама

старонкі 2-3



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Адкрыюць помнік Максіму Танку

**МЯДЗЕЛ**. На 5 снежня запланаванае адкрыццё помніка народнаму паэту Беларусі ў Мядзеле. Помнік вышынёй амаль тры метры ўстановяць ля Дома культуры. Адкрыццё – у 14 гадзін, расказала начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Ірына Пазняк**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



# Апошняя магчымасць знайсці продкаў з Ракава

**ВАЛОЖЫН. Жыхары Ракава 22 лістапада знаёміліся з кнігай, якая дапаможа ім даведацца пра сваіх продкаў. У Цэнтры народнай творчасці Ракава прайшла прэзентацыя кнігі "Невядомы Ракаў: могілкі пад базыльянскім крыжам".**

Стварыла яе Ініцыятыва аховы і пашпартызацыі гістарычных могілак Беларусі.

– Мы намагаліся сабраць у адным выданні кароткую гісторыю Ракава, збор і апісанне ўсіх могілак мястэчка, а таксама гісторыю самых старых праваслаўных (а раней – уніяцкіх) могілак Ракава, – расказала даследчыца-некрапаліст, каардынатар названай ініцыятывы **Вольга Сямашка**.

**Кніга стала вынікам працы па добраўпарадкаванні тэрыторыі гісторыка-культурнай каштоўнасці "Комплекс старых праваслаўных (уніяцкіх) могілак дзевятнаццатага стагоддзя" ў Ракаве.**



Фота забяспечана Вольгай СЯМАШКАЙ.

Жыхары Ракава выстройваліся ў чаргу па аўтографы. На пярэднім плане — Вольга Сямашка.

У працэсе даследавання сябры Ініцыятывы аховы і пашпартызацыі гістарычных могілак Беларусі прыйшлі да высновы: кожныя з шасці могілак Ракава ўяўляюць сабой найцікавейшыя месцы памяці і патрабуюць асобнай кнігі. Аднак сканцэнтраваліся менавіта на старых праваслаўных (уніяцкіх) могілках, паколькі яшчэ ў 2005 годзе яны былі абароненыя ад зносу.

## Як баранілі могілкі

Валанцёры ініцыятывы сабралі подпісы мясцовых жыхароў, накіравалі неабходныя дакументы ў Міністэрства культуры Беларусі.

– І здарыўся цуд! – дзеліцца Вольга. – Могілкі былі ўзятыя пад ахову дзяржавы. Пасля гэтага распачалі апісанне іх. Аднак яно ўскладнялася рознымі акалічнасцямі – у тым ліку фактамі вандалізму.

– Здаралася, надмагіллі былі паваленыя і не было аніякай магчымасці іх узняць на старое месца ці хаця б расчытаць, – працягвае даследчыца. – Да таго ж набыты статус аніяк не абараніў могілкі ад новых пахаванняў наўпрост на самой тэрыторыі і ахоўнай зоне. Таму мы ініцыявалі збор подпісаў з мэтай спыніць незаконную гаспадарчую дзейнасць на аб'екце гісторыка-культурнай спадчыны. У цэлым усё атрымалася, з мясцовымі ўладамі знайшлі кампраміс. Яны ўзялі на сябе шэраг абавязацельстваў, у тым ліку добраўпарадкаваць тэрыторыю могілак.

Увесь гэты працэс апісаны ў кнізе. Аўтары хацелі, каб чытачы даведаліся пра механізм аховы могілак і ініцыявання ўнясення іх у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

## Дзед лідара гурта "Князь Мышкін" пахаваны на ракаўскіх могілках

Зала была перапоўненая: на прэзентацыю прыйшлі людзі ўсіх узростаў. Жыхарам было вельмі цікава даведацца нешта новае пра Ракаў. Задавалі шмат пытанняў.

– Бачна, што людзям неабыякавая сітуацыя не толькі з гэтымі могілкамі. Іх хвалюе лёс і каталіцкіх, і яўрэйскіх могілак, гісторыя на сумежжы культур, – кажа Вольга.

На прэзентацыі выступіў музыка і лідар гурта "Князь Мышкін" **Леанід Нарушэвіч**. Яго дзед, каваль **Максім Нарушэвіч**, пахаваны на гэтых могілках. У кнізе прыводзяць прыклады таго, што кавальскія вырабы Ракава, асабліва сакральныя крыжы, цаніліся па ўсёй Беларусі. Адзін з іх патрапіў у кнігу аб беларускім кавальстве. У 2005 годзе гэты крыж выратавалі ад знішчэння і перадалі на захаванне ў музей братоў **Янушкевічаў** у Ракаве.

Адбылася віктарына на прызы кампаніі "Будзьма беларусамі!". Прагучала шэсць пытанняў аб гісторыі Ракава – і на ўсе далі правільныя адказы.

## Кніга – для кожнага

Кожнаму ўдзельніку прэзентацыі ўручылі экзэмпляр кнігі.

– Людзі шчыра дзякавалі за выданне кнігі. А мы хочам падзякаваць за тое, што нас гасцінна прынялі ў Цэнтры народнай творчасці, – расказвае Вольга. – Выхад кнігі супаў з праектам адраджэння капліцы ля святой ракаўскай крыніцы, таму гучалі прамовы аб тым, што ў беларускіх гарадах усе рэлігіі жылі мірна. І так павінна быць і надалей.

**Язэп Янушкевіч падкрэсліў важнасць кнігі з той пазіцыі, што большасць архіўных звестак аб жыхарах Ракава 19 стагоддзя згарэла, а значыць, гэта кніга – апошняя магчымасць даведацца аб сваіх продках, пахаваных у Ракаве.**

Асобныя падзякі ад удзельнікаў былі за тое, што цяпер з'явілася магчымасць адшукаць сваякоў на старых могілках. Гучалі просьбы выдаць кнігі і пра астатнія могілкі Ракава.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ":** Некрапаліст – даследчык, які вывучае могілкі (некрапалі), займаецца іх апісаннем і захаваннем.

ГРАМАДСТВА

# Эколаг бачыць хібы ў праектаванні свінакомплексу ў Мойсічах

**МАЛАДЗЕЧНА. У справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння свінакомплексу ў Мойсічах на навакольнае асяроддзе ён указвае на памылкі ў падліках і недакладнасці. Самой метадалогіі, формулаў, па якіх рабілі ацэнку, не прыведзена. З-за гэтага пераправерыць экспертаў фактычна немагчыма.**

Эколаг патлумачыў "РГ" асноўныя недахопы справаздачы пры ўмове ананімнасці.

## Колькі на самой справе будзе гною?

У ацэнцы прапісана, што за суткі са свінагадоўчага комплексу на 100 тысяч свінняў будзе выдзяляцца 10 тон гною. Гэта значыць, 100 грамаў ад кожнай свінні.

Калі адкрыць расійскія метадычныя рэкамендацыі (рэкамендацыйныя дакументы, метадычныя рэкамендацыі па тэхналагічным праектаванні сістэм выдалення і падрыхтоўкі да выкарыстання гною і памёту ад 1.10.15.02-08) па праектаванні свінакомплексаў, там прадугледжана, што адна свіння можа даваць да 4,5 кілаграма гною ў дзень. Адпаведна, максімальная колькасць гною ад такога ж свінакомплексу ў Расіі ў 45 разоў большая і дасягае 450 тон гною ў дзень.

Сцвярджаць, што сапраўдная колькасць гною большая ў 45 разоў, не варта. Ёсць хібнасць, бо ўзяты максімум. Але тое, што з комплексу будзе выдзяляцца 10 тон гною ў дзень, выклікае сумневы.

## Тэхналогіі танныя і не сучасныя

На думку эксперта, праект не адпавядае часу. На сучасных свінакомплексах выкарыстоўваюць новыя тэхналогіі ў сферы жывёлагадоўлі. Яны дапамагаюць максімальна зменшыць негатыўнае ўздзеянне на наваколле.

Напрыклад, чаму для кампаставання гною не прадугледжана праверанае гадамі буртаванне? Калі зверху гной прыкрываюць 20-сантыметровым пластам зямлі ці торфу. У такой схеме ў атмасферу вылучаецца менш забруджвальных рэчываў, а біятэрмічныя працэсы ідуць лепш.

У праекце ж ідзе гаворка, што проста будуць збіраць гной і вывозіць на палі.

Чаму не прадугледжанае будаўніцтва біягазавых установак і метатэнкаў? Дзякуючы ім можна было б атрымаць газ, які мог бы забяспечваць энергіяй свінакомплекс ці дамы.

Праект жа, які падрыхтавалі гомельскія спецыялісты, танны. Тэхналогіі, што плануюць выкарыстоўваць, састарэлыя. Адпаведна ім уздзеянне нашмат больш негатыўнае, чым магло б быць.

## Пра пах ні слова

Маладзечанцы найбольш баяцца, што ў горадзе будзе смярдзець. Аднак смурод ніяк не намуецца. Няма дакументаў, якія прадугледжвалі б яго абмежаванне. Пазбегнуць жа яго пры такім гіганцкім свінакомплексе і велізарнай колькасці адходаў можна, толькі выкарыстоўваючы сучасныя, але затратныя тэхналогіі.

Тым часам у справаздачы не запраектаваныя ніякія мерапрыемствы і сродкі яго змяншэння, якія вядомыя сусветнай практыцы.

Спецыяліст тлумачыць, што, як паказвае практыка, найбольшы смурод з'яўляецца падчас таго, як уносяць гной у глебу і паліваюць палеткі гнаявой жыжай.

Пазбегнуць непрыемных пахаў можна было б, выкарыстоўваючы перапрацоўку чарвякамі цвёрдага гною. Тады б пах не ўзнікаў падчас размеркавання кампосту па палетках. Гэта праектам не прадугледжана.

Комплекс у Мойсічах хочуць пабудаваць у трох кіламетрах ад горада. Да навакольных вёсак адлегласць яшчэ меншая.

### Формулы, па якіх эколаг пралічыў выкіды аміяку

1. Максімальны выкід забруджвальнага рэчыва для аб'ектаў ачышчальных збудаванняў вылічваецца па формуле: $M_i = q_{imax} \times F \times 10^{-3}$, дзе

$q_{imax}$ – максімальныя ўдзельныя выкіды на адзінку паверхні аб'екта ачышчальных збудаванняў, мг/с*м$^2$;

**F** – плошча паверхні аб'екта ачышчальнага збудавання, м$^2$.

$M_{аміяк} = 0{,}172 \times 27\,780 \times 10^{-3} = 4{,}778$ г/с

*Пададзеная ў справаздачы лічба меншая ў 36 разоў – **0,133037**.*

2. Валавы выкід забруджвальнага рэчыва для аб'ектаў ачышчальных збудаванняў вылічваецца па формуле:

$G_i = 3{,}6 \times q_{icp} \times F \times T \times 10^{-6}$, дзе

$q_{icp}$ – сярэдні ўдзельны выкід на адзінку паверхні аб'екта ачышчальных збудаванняў, мг/с*м$^2$;

**F** – тое ж, што і ў першай формуле;

**T** – час эксплуатацыі аб'екта ачышчальнага збудавання, г/год.

$G_{аміяк} = 3{,}6 \times 0{,}055 \times 27\,780 \times 6600 \times 10^{-6} = 36{,}302904$ т/год

*У афіцыйнай справаздачы пададзеная лічба **13,950492**. Яна меншая ў 2,6 раза.*

**Эколаг пралічыў выкіды аміяку па агульнапрынятай у Беларусі методыцы, прапісанай у дапаможніку ў галіне аховы навакольнага асяроддзя і прыродакарыстання 17.08-01-2012. Ён узяў толькі адну крыніцу неарганізаваных выкідаў – гнаясховішча (пад №6034, ст.245-246, "Ацэнка ўздзеяння на навакольнае асяроддзе" свінакомплексу ў Мойсічах). І ўбачыў, што лічбы выкідаў, прыведзеныя ў праекце, заніжаныя. А такіх крыніц 39, і памылак можа быць нашмат больш. Пытанне: якой методыкай карысталіся праектанты ў справаздачы, калі з'яўляюцца такія разбежкі?**

**У справаздачы прапісана, што вёска Раеўшчына ўваходзіць у санітарна-ахоўную зону комплексу, а гэта недапушчальна. Пра гэта прама гаворыцца ў самой ацэнцы.**

Акрамя Раеўшчыны, побач знаходзяцца вёскі Мойсічы, Адамавічы і Рагазы.

## Тры месяцы будуць паліваць палі жыжай

Убачыць межы палеткаў, па якіх будуць размяркоўваць гной, немагчыма. У справаздачы гэтага няма, толькі лічбы. 55 гектараў прызначаныя для заворвання цвёрдага гною. Яшчэ 12 гектараў – для паліву гнаявой жыжай.

Спецыялісту цяжка пагадзіцца з прапанаваным у справаздачы спосабам утылізацыі гэтых адходаў.

Эколаг не разумее, якую сельскагаспадарчую культуру можна паліваць два разы ў дзень тры месяцы запар?

А ў расійскай метадычнай рэкамендацыі ўвогуле забараняюць выкарыстоўваць паліў гнаявымі сцёкамі. Імі раяць угнойваць шматгадовыя травы на лугах і пашах, выкарыстоўваючы агрэгаты, якія забяспечваюць унясенне гною на глыбіню не менш за 17 сантыметраў і выключаюць забруджванне ім паверхні глебы.

## Адступілі ад Тэхнічнага кодэкса

Як заўважае эксперт, у справаздачы не пралічылі выдзяленне забруджвальных рэчываў у наваколле падчас унясення гною ў глебу.

Найбольш небяспечныя выдзяленні аміяку і серавадароду. Такія разлікі спецыялісты, што рабілі справаздачу, не правялі.

Гэта адступленне ад патрабаванняў Тэхнічнага кодэкса ўсталяванай практыкі "Правілы разліку выкідаў ад жывёлагадоўчых комплексаў, звераферма ў і птушкафабрык". Табліца 3-4 ТКП 17.08-11-2008

## У праекце ёсць відавочныя памылкі

Для ўтылізацыі вадкіх сцёкаў у справаздачы запраектаваныя лагуны. Аднак на адной старонцы прапісана, што будуць дзве лагуны, а на іншай – тры.

Аб'ём адной – 11 тысяч кубічных метраў. Дзвюх, адпаведна, 22 тысячы.

Далей гаворка ідзе пра калодзеж для палівання бліжэйшых палеткаў. Туды перапампоўваецца вада з лагун. Тут разлікі вядуцца з лічбай 35 тысяч кубічных метраў вадкіх сцёкаў.

Адкуль узялася гэтая лічба, эколагу незразумела.

Спецыяліст лічыць, што аб'ёмы лагун і іх плошча заніжаныя. Адпаведна заніжаная і колькасць забруджвальных рэчываў, якая вылучаецца ў атмасферу.

## Ці будуць забруджвацца воды

Не менш людзей хвалюе, ці адаб'еццца свінакомплекс на вадзе.

Як адзначае эколаг, праектаванне інжынернага ўладкавання палеткаў, якое прадухіляла б забруджванне паверхневых і дрэнажных вод, папросту не зробленае.

У справаздачы няма ацэнкі магчымага забруджвання водных аб'ектаў, што побач.

Няма праектных рашэнняў па зборы, каранціраванні, ачыстцы і ўтылізацыі лівневых і талых вод з выгульных пляцовак і тэрыторыі комплексу.

## Хто і для каго рабіў справаздачу

Гэта толькі асноўныя моманты, якія адзначыў эксперт. Яны ляжаць на паверхні. Але і з гэтага вынікае шмат пытанняў па праектаванні будаўніцтва аднаго з самых гіганцкіх свінакомплексаў Беларусі.

Справаздача аб ацэнцы ўздзеяння свінакомплексу ў Мойсічах на наваколле зробленая па заказе кампаніі "Велес-Міт" у Маладзечне. Яна вырабляе мясную прадукцыю для Беларусі і на экспарт.

Справаздачу рабілі гомельскія спецыялісты навукова-вытворчай фірмы "Экалогія".



Настасся РОЎДА
E-mail: nastya.rovdo@gmail.com
Skype: nastya_rovdo

### На 12 гектараў зямлі будуць штодзень выліваць 12 цыстэрнаў адходаў

Штодзённы аб'ём сцёкаў – 315,4 кубічныя метры. Лічба даецца ў справаздачы.

У адной чыгуначнай цыстэрне можа змяшчацца 60 кубічных метраў сцёкаў. Атрымліваецца, кожны дзень будуць збіраць столькі адходаў, колькі па аб'ёму змесціва пяці цыстэрнаў.

Утрымліваць сцёкі плануюць цягам 210 дзён. За гэты час, калі зноў праводзіць аналогію з цыстэрнамі, іх запоўніцца сцёкамі больш чым 1100. Такі аб'ём адходаў будуць размяркоўваць на 12 гектарах зямлі цягам трох месяцаў. Атрымліваецца, кожны дзень на палі будуць выліваць па 12 цыстэрнаў.

Эксперт раіць загадзя падумаць: дзе ўзяць столькі тэхнікі і рабочых, якія змаглі б забяспечыць працу такой схемы?



**Даведка "РГ".**
**Вадкая фракцыя гною.** З'яўляецца падчас працы сістэм вадкага збору гною на жывёлагадоўчых комплексах.
**Метатэнк.** Прылада для анаэробнага закісання вадкіх арганічных адходаў з атрыманнем метану.

ГРАМАДСТВА

# Маладзечанцы ставяць пытанні аб свінакомплексе

**МАЛАДЗЕЧНА. Неабыякавая жыхарка горада Марыя Байкова гаворыць пра тое, што на шэраг пытанняў па будаўніцтве двух свінакомплексаў пакуль ніхто не даў адказу.**

– Людзі пра гэта не ведаюць, – тлумачыць Марыя Вікенцьеўна. – Што будаўніцтва плануюць распачаць ужо праз некалькі месяцаў, што і пляцоўка гатовая. Ці хочуць гэтага людзі, ніхто не пытаецца. Нас проста ставяць перад фактам, што будаўніцтву быць.

**Да 30 лістапада любы ахвотны можа прачытаць справаздачу, як спецыялісты ацэньваюць уздзеянне свінакомплексаў на навакольнае асяроддзе. Яна размешчаная на афіцыйным сайце райвыканкама.**

**Пытанні, якія ставіць Марыя Байкова:**

1. Ружа вятроў. Ці будуць ісці на горад пахі?

Меркаванае будаўніцтва аднаго са свінакомплексаў – у 18 кіламетрах, каля вёскі Соўлава. Другога – у трох кіламетрах ад горада – каля вёскі Мойсічы. Няўжо пахаў магчыма пазбегнуць?

2. Эксплуатацыя комплексаў разлічаная на шмат гадоў. Куды будуць ісці сцёкавыя воды? Як гэта адаб'ецца на экалогіі нашага раёна праз пэўны час?

Жыхарку непакоіць, ці можа гэта адбіцца на стане вады, бо ў Геленове месціцца водазабор.

3. Куды будуць вывозіць такую колькасць гною?

Сто тысяч галоў – гэта больш, чым людзей у горадзе, заўважае чытачка. Плануюць жа пабудаваць два такія комплексы. Значыць, агулам прыбавіцца на 200 тысяч свіней.

Больш за тое, адзначае маладзечанка, з іншага боку горада, на Парашках, будуюць мясакамбінат. А зусім непадалёк ідзе водазабор Крыніца, ваду з якога мы п'ём.

– Нам у гэтым горадзе жыць, нашым дзецям, нашым унукам. Штогод павялічваецца колькасць людзей, хворых на бранхіяльную астму. Цяпер жа можа атрымацца, што мы нават не адкрыем фортку, каб праветрыць памяшканне. І так смог перыядычна вісіць у горадзе. Хто рэгіструе выкіды ў атмасферу? Вось хоць раз хтосьці выступіў і адказаў празрыста і зразумела на ўсе гэтыя пытанні? – задае рытарычнае пытанне спадарыня Марыя.

Для таго, каб утрымліваць такую колькасць свіней каля горада, адназначна будуць праводзіць дызінфекцыйныя мерапрыемствы, мяркуе жанчына. Значыць, будуць выкарыстоўваць хімікаты.

– Куды яны будуць усё гэта дзяваць? На палі? А потым пасля пачнуць вырошчваць там бульбу і прадаваць нам? Атрымліваецца, што горад сонца, культурную сталіцу Мінскай вобласці збіраюцца ператварыць у свінарнік. Самы сапраўдны. З аднаго боку – Соўлава, з другога – Мойсічы, з трэцяга – гіганцкі мясакамбінат. Маладзечна абклалі з усіх бакоў свіннямі. Няўжо не знойдзецца разумны чалавек, які зможа ўзняць гэта пытанне і аднесці комплекс хаця б далей ад горада? – задаецца пытаннем жанчына.

І апошняе пытанне, якое турбуе маладзечанку, куды далей будзе расці горад? Кірунак у бок Мінска, Соўлава фактычна застаецца адзіным. Дагэтуль горад рос пераважна туды. Калі ж там пабудуюць свінакомплекс, ён стане фактычнай перашкодай да разбудоўвання Маладзечна.

Да 30 лістапада вы можаце накіроўваць свае заўвагі і прапановы па справаздачы аб ацэнцы ўздзеяння свінакомплексаў на навакольле.



Скан дакумента.

**Маладзечанка Марыя Байкова сабрала 49 подпісаў гараджан пад лістом, дзе стаяць пытанні аб магчымых наступствах будаўніцтва двух свінакомплексаў ля Соўлава і Мойсічаў агулам на 200 тысяч свіней. У лісце пазначана, што недастаткова інфармацыі пра гэта ва ўсіх СМІ горада. Што не праведзены дасканалы аналіз, як будуць уздзейнічаць свінакомплексы на наваколле, ваду і зямлі праз пэўную колькасць гадоў. Незразумелыя вынікі па ружы вятроў, ці будуць пахі. Ліст Марыя Байкова збіраецца накіраваць уладам.**

**Грамадскае абмеркаванне праектаў будаўніцтва адбудзецца 1 снежня ў 18:00 у малой зале Маладзечанскага райвыканкама**

**Настасся РОЎДА.**

## Як працуе гіганцкі свінакомплекс на Валожыншчыне

**МАЛАДЗЕЧНА. ВАЛОЖЫН. У Маладзечанскім раёне, акрамя комплексу ў Мойсічах, хочуць пабудаваць яшчэ адзін, у 18 кіламетрах ад горада, каля вёскі Соўлава.**

Яго плануюць размясціць на мяжы з Валожынскім раёнам. Аднак выканальнік абавязкаў начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Валожынскага райвыканкама **Анатоль Лябёдка** пра гэта не чуў. У абмеркаванні раён удзел не бярэ.

На Валожыншчыне ад чэрвеня пачаў працаваць адзін з самых гіганцкіх свінакомплексаў. Ён разлічаны на 110 тысяч галоў.

– Комплекс працуе нядаўна, свінней у ім пакуль няшмат. Усяго 3 700 дарослых і 30 тысяч парасят. Адначасова ж у комплексе плануецца ўтрымліваць да 50 тысяч свінней. Цыкл доўжыцца паўгода. Таму за год абарот будзе да 100 тысяч свіней, – адзначае Анатоль Лябёдка. – За час эксплуатацыі скаргаў ад жыхароў мы не атрымлівалі. І пакуль назіраем добрую дынаміку ў развіцці комплексу.

Аднак у рэдакцыю "РГ" ужо звярнуліся жыхары вёскі Лохаўшчына Валожынскага раёна, занепакоеныя магчымым суседствам са свінакомплексам у Соўлаве.

**Настасся РОЎДА.**

**Каментар спецыяліста**

Начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Маладзечанскага райвыканкама **Генадзь Бажко**:

– Свінакомплексы – гэта сучасныя тэхналогіі, рабочыя месцы, ды і ёсць ўсе ж хочуць. Попыт нарадзіў прапанову. Я лічу, што сучасныя тэхналогіі дазваляюць папярэдзіць любыя праблемы, якія баяцца маладзечанцы.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**80**

Столькі подпісаў супраць будаўніцтва свінакомплексу ў Мойсічах сабрала яшчэ адна маладзечанка Ева Грыбоўская за адзін дзень. Іх накіруюць у Маладзечанскі райвыканкам

Інфографіка Настасі РОЎДЫ

| Курсы валют НБ РБ | 20.11 руб. | 27.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 770,00 | **10 800,00** |
| Еўра | 13 480,00 | **13 470,00** |
| Злоты | 3 205,50 | **3 224,41** |
| Літ | 3 912,52 | **3 901,88** |
| Расійскі рубель | 229,50 | **233,00** |
| Грыўня | 708,55 | **715,23** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 26.11** | | |
| Еўра | 13480/13650 | **13400/13600** |
| Долар ЗША | 10830/10930 | **10800/10930** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 19.11 Цана руб. | 26.11 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53750** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | - | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | - | **34700** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | - | **105000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13000 | **10500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 10400 | **10400** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей "Масловія" | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6000 | **6000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 11700 | **11700** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10700 | **10700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5500 | **4500** |
| Капуста, 1 кг | 2500 | **2100** |
| Морква, 1 кг | 4500 | **4100** |
| Буракі, 1 кг | 4500 | **4000** |
| Лімоны, 1 кг | 18500 | **20500** |
| Апельсіны, 1 кг | 15900 | **15500** |
| Мандарыны, 1 кг | 21500 | **18500** |
| Памідоры, 1 кг | 22900 | **23900** |
| Агуркі, 1 кг | 22900 | **21500** |
| Перац, 1 кг | 15000 | **17500** |
| Вінаград, 1 кг | 16900 | **17000** |
| Бананы, 1 кг | 12900 | **13000** |
| Хурма, 1 кг | 22900 | **22500** |
| Яблыкі, 1 кг | 9500 | **9500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 18900 | **17500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 5000 | **4200** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |

КРЫМІНАЛ

# Засеклі і ўтапілі мужчыну ў Вілейцы

## Сякерай яго ўдарыла маці пяцярых дзяцей

**ВІЛЕЙКА. 15 лістапада ў Вілейцы знік 36-гадовы мужчына. Супрацоўнікі райаддзела ўнутраных спраў у ходзе пошукавых мерапрыемстваў знайшлі труп мужчыны ў штучным вадаёме. Размешчаны той у двары прыватнага дома ў Вілейцы.**

Следства ўстанавіла, што напярэдадні пацярпелы быў у гасцях у сваіх знаёмых, дзе на глебе алкагольнага ап'янення адбыўся канфлікт.

Падчас сваркі 41-гадовы гаспадар нанёс госцю нажавыя раненні – не менш за два. А яго 40-гадовая сужыцелька некалькі разоў ударыла пацярпелага абухом сякеры па галаве, раказала афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

У выніку ад атрыманых цялесных пашкоджанняў мужчына памёр. Каб утаіць забойства, труп утапілі ў вадаёме ў двары дома.

Па факце забойства ўзбудзілі крымінальную справу. Падазраваных затрымалі.

Цяпер з іх удзелам праводзяць следчыя дзеянні. Каб удакладніць усе абставіны і ролю кожнага з удзельнікаў у злачынстве, правялі праверку паказанняў на месцы.

### Маці пяцярых дзяцей, якія з ёй не жывуць

Намеснік начальніка РАУС начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык** расказаў, што жанчына нарадзіла пяць дзяцей. З-за схільнасці да алкаголю была пазбаўленая бацькоўскіх правоў – дзеці з ёй не жывуць.

Жанчыну судзілі, сёлета яна вызвалілася з месцаў пазбаўлення волі. Апошнім часам не працавала. Лёсам сваіх дзяцей не цікавілася, ухілялася ад выплаты аліментаў.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота з сайта sk.gov.by.

Жанчына ўзяла ў рукі сякеру і стукнула ёй мужчыну.

МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Як пошта дапамагае міліцыі змагацца з самагоншчыкамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Цяпер праз паштовыя скрыні можна паведамляць інфармацыю пра асоб, якія займаюцца незаконным абаротам алкагольных напояў, аб месцах незаконнага вырабу спіртнога і іншую інфармацыю.**

Для гэтага дастаткова апусціць у паштовую скрыню паперу любога фармату без канверта, паштовай маркі. На ёй павінна быць адпаведная інфармацыя.

Пасля вымання лістоў супрацоўнікі пошты ўсе запісы перадаюць у РАУС або паведамляюць інфармацыю па тэлефоне 102.

Пра сябе пісаць нічога не трэба. Усю інфармацыю супрацоўнікі РАУС правяраць. Таму просяць паведамляць толькі дакладныя звесткі.

### Чатыры інфармацыі не пацвердзіліся

Начальнік штаба Маладзечанскага РАУС **Яўген Беркутаў** адзначае:

– Падобную акцыю мы правялі сёлета ў сакавіку. Усяго паступіла 27 лістоў. Хто дасылаў кавалачак паперы з адрасам, хто вялікія грувасткія лісты з інфармацыяй. Толькі чатыры інфармацыі не пацвердзіліся.

Аднак Яўген Беркутаў заўважае:

– Магчыма, у лістах была і праўдзівая інфармацыя. Але на момант праверкі людзі маглі схаваць прыстасаванні, прадукты самагонаварэння.

### Праз атручэнне самагонам памерла 17 чалавек

Яўген Беркутаў гаворыць, што пасля вясенняй акцыі злачынствы такога кшталту пачалі зніжацца.

Сёлета ў Маладзечанскім раёне было 129 парушэнняў, звязаных з продажам, захаваннем, незаконным абаротам спіртнога. Міліцыя канфіскавала 23 самагонныя апараты, 1234 літры самагону, 85 тон самагоннай брагі.

За дзевяць месяцаў гэтага года ад атручэння алкаголем памерла 17 чалавек. За адпаведны перыяд мінулага года – 23 чалавекі.

### "Нацыя співаецца ў хлам"

Чытача "РГ" **Аляксандра Кавецкага** вельмі турбуе праблема алкагалізму:

– Нацыя співаецца ў хлам. Ад спіртнога многія праблемы: бацькі, якіх пазбавілі бацькоўскіх правоў, аварыі. Выйдзіце на вуліцу і паглядзіце, адразу стане зразумелым, колькі співаецца. Калі зловяць усіх самагоншчыкаў, ахвотныя ўсё адно знойдуць бутэльку ў краме.

Чытач **Аляксандр Грышкевіч** лічыць малаверагодным, што людзі будуць актыўна дасылаць звесткі на тых, хто вырабляе самагон, таму што гэта не ў менталітэце беларусаў.

**Галіна СІНІЦА.**

ЗДАРЭННІ

# Былога дырэктара "Вілейкарайгазу" абвінавачваюць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі

**ВІЛЕЙКА. Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці завяршыла расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да былога дырэктара "Вілейкарайгазу".**

Устаноўлена, што ён сістэматычна ў працоўны час прыцягваў падначаленых да будаўнічамантажных і рамонтных работ на аб'ектах нерухомасці, якія належаць яму, яго блізкім сваякам і знаёмым.

Акрамя таго, яго падазраюць у крадзяжы шэрагу таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў прадпрыемства. У падпісанні афіцыйных дакументаў, у тым ліку табеляў уліку працоўнага часу, якія змяшчаюць заведама недакладныя звесткі.

Супрацьпраўныя дзеянні пацягнулі прычыненне шкоды прадпрыемству на суму каля 18 мільёнаў рублёў.

Дзеянні абвінавачанага кваліфікаваныя следствам як злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, службовы падлог.

Крымінальную справу перадалі ў пракуратуру для накіравання ў суд.

**Таццяна БЕЛАНОГ, афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці**

# Пенсіянерка забіла мужа, які прасіў грошай на гарэлку

**ВІЛЕЙКА. У №46 "РГ" паведамлялі пра забойства ў Вілейцы, якое адбылося 9 лістапада. Упраўленне ўнутраных спраў Мінаблвыканкама знаёміць з падрабязнасцямі трагедыі.**

Увечары 9 лістапада 74-гадовая жанчына паведаміла, што знайшла мужа з сечанымі ранамі галавы ў гаспадарчай прыбудове ў двары дома. Супрацоўнікі следча-аператыўнай групы РАУС па гарачых слядах раскрылі забойства.

Як высветлілася, 54-гадовы мужчына злоўжываў спіртным. Напіўся ў чарговы раз і пачаў прыставаць з просьбамі даць яму яшчэ грошай на гарэлку. У час сваркі муж, трымаючы ў адной руцэ сякеру, другой спрабаваў вырваць у жонкі сумку, аднак гэта яму не ўдалося.

Нягледзячы на значную розніцу ва ўзросце, жанчына аказалася спрытнейшай. Яна выхапіла сякеру з рук мужа. Пасля чаго ў гневе нанесла яму некалькі удараў па галаве. Ад атрыманых траўмаў мужчына памёр.

Узбудзілі крымінальную справу.

**Павел ГОРБАЧ, аддзяленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінаблвыканкама.**

### Папраўка

У артыкуле "У Маладзечне прайшлі вучэнні па барацьбе з ліхаманкай Эбола" ў №47 за 21 лістапада дапушчаная недакладнасць.

Загадчыца аддзела эпідэміялогіі маладзечанскага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі – **Людміла Ермачэнка.** Аўтар просіць прабачэння ў Людмілы Міхайлаўны і чытачоў.

ЭКАНОМІКА

# Як закупляюцца ў Расіі тэхнікай і машынамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Многія беларусы скарысталіся абвалам расійскага рубля. Шматлікія рэчы ў суседняй краіне цяпер можна набыць нашмат танней.**

На машыне ці тэхніцы можна зэканоміць ад 30% цаны. Разам з гэтым некаторыя шукальнікі выгаднай пакупкі трапляюць у розныя пасткі. Сваім досведам падзяліліся жыхары Маладзечна, якія прыехалі з Расіі з абноўкамі.

– Цяпер вельмі выгадна ехаць закупляцца, – распавядае маладзечанец **Андрэй**, які раней працаваў грузаперавозчыкам. – Курс расійскага рубля з лета абваліўся на трэць, а цэны тавараў прывязаныя не да долара, а да рубля. Так як рынак доўга перастройваецца з цэнамі, асабліва машынны, там пакуль танна.

Што тычыцца бытавой тэхнікі, тэлефонаў ці ноўтбукаў, то адмыслова па іх выбіраюцца ў Расію рэдка. Пераважна едуць на адной машыне мінімум удвух, купляюць аўто, а назад едуць кожны на аўтамабілі. Тэхніку набываюць па дарозе. Калі купляць у буйных крамах на акцыі ці апошні тавар з вітрыны, атрымаецца яшчэ танней, даходзіць да паловы цаны.

Але тут таксама можна расчаравацца. Нават калі добра агледзіш тавар, дома можаш знайсці хіб, які і прайшоў бы па гарантыі, але ж не паедзеш зноў у Расію памяняць блэндар. Такая сітуацыя здарылася і з Андрэем: набыў кававарку, якая працякае. З-за такой драбязы выпраўляцца на 800 кіламетраў у адзін бок – даражэй выйдзе паездка.

**Танная цана захоўваецца толькі на тавары, якія закупілі па ранейшым курсе рубля, да абвалу. Што тычыцца машын, то паспець прыгнаць таннейшую з Расіі можна да канца года.**

Цяпер пакупнік плаціць толькі ўтылізацыйны збор. За растаможку плаціць не трэба.

### Пазбягайце перакупшчыка

Набываючы машыну, вельмі проста заблытацца і наогул згубіць грошы. Па-першае, цяпер у Расіі ёсць зладзеі, якія рабуюць аўтамабілі з беларускімі нумарамі. Падругое, шмат іншых нюансаў чакае беларуса.

Першая парада – выбіраць патрыманыя машыны праз інтэрнэт, шукаючы толькі прыватныя аб'явы. Пазбягайце перакупшчыкаў, якія трымаюць машыны на аўтастаянках. Калі вы прачытаеце заманлівую аб'яву перакупшчыка, хутчэй за ўсё, вас падмануць. Прыехаўшы на стаянку, вы ці не знойдзеце заяўленую мадэль наогул, ці вам назавуць большую цану.

Ды і самі аўтамабілі стаяць пад адкрытым небам невядома колькі, наўрад ці іх добра дагледаюць. На стаянках ёсць са схаванымі непаладкамі, якім толькі надалі таварны выгляд, а як яна вас давязе дадому, прадаўца хвалюе мала.

Пакупніку варта добра вывучыць гісторыю аўто. У маладой машыны некалькі гаспадароў – наўрад ці гэта выпадковасць і добры знак.

– Калі я са сваёй ехаў на камп'ютарную дыягностыку, побач цягнулі аўто са згарэўшай праводкай, – распавядае Андрэй. – Чалавек купіў машыну з аўтастаянкі. А як дамоў даехаць? Тут ці эвакуатар выклікаць, на якім проста абанкруцішся, ці на прыколе везці, калі на іншай машыне прыехаў. Але ж уяві, як гэта, асабліва па Маскве. Там заторы проста вялізныя. 20 кіламетраў я чатыры гадзіны ехаў. Яшчэ ж вымотваешся моцна. Таму лёгка памылку дапусціць.

### Купіць аўтамабіль – два подпісы

У Расіі спрошчаны парадак афармлення аўтатранспарту. Стаць уласнікам можна, паставіўшы два подпісы. Дакумент куплі-продажу афармляюць без натарыяльнага зацвярджэння, а ў пашпарце тэхнічнага сродку проста пішуць ад рукі сваё прозвішча. Але калі ў дагаворы будзе нейкая памылка, якую заўважаць у ДАІ, яго давядзецца пераафармляць. Папярэдні ўласнік можа быць ужо за шмат кіламетраў і вяртацца наўрад ці захоча.

Дарэчы, каля ДАІ стаяць асобы, якія прадаюць бланкі куплі-продажу, а яшчэ прапануюць заверыць дагавор за 1 тысячу расійскіх рублёў (каля 240 тысяч беларускіх). Але гэта пацвярджэнне ніякай юрыдычнай сілы не мае.

Зразумела, што прадавец машыны не захоча праходзіць разам з пакупніком усе праверкі і працэдуры пераафармлення. Маладзечанец каля чатырох гадзін займаў час прадаўца, пакуль зрабіў неабходнае.

Праверыць гісторыю аўтамабіля можна на любым пасту ДАІ бясплатна. Неабходна адразу паказаць саму машыну і яе тэхнічны пашпарт. Яны правераць агульную з банкамі базу. Аўто можа быць у вышуку, скрадзенае, арыштаванае, пад залогам ці крэдытам. Набыўшы яго, вы можаце згубіць і грошы, і машыну, могуць проста не выпусціць пакупку з Расіі.

Адзін маладзечанец, правяраючы аўто, высветліў, што яно пад крэдытным залогам. Ён прапанаваў прадаўцу пагасіць крэдыт, а рэшту пакінуць яму. Залогавую машыну не выпусцілі б з Расіі. Прадавец пагадзіўся. На шчасце, пра крэдыт ён даведаўся да таго, як купіў транспарт.

### Разводзяць на няведанні закона

Наступны этап – пераафармленне аўто. Зрабіць гэта ў Маскве няпроста. ДАІ працуе кругласутачна, каля апоўдня заканчваюцца ўсе талончыкі. Таму трэба ці чакаць, ці ехаць у падмаскоўны горад. Неабходна зняць яе з уліку з правам вывазу з РФ.

**Няправільна зняўшы машыну з уліку, немагчыма зарэгістраваць яе ў Беларусі. Давядзецца зноў ехаць у Расію, ставіць на ўлік на грамадзяніна РФ, каб ён правільна зняў машыну.**

Каля ДАІ шмат павільёнаў страхавых агентаў, якія адразу прапануюць страхоўку прыкладна за 50 долараў.

– Кажу агенту, што да 10 дзён можна ж ездзіць без страхоўкі. Ён адказвае: "Молодец, знаешь. А некоторые покупают".

Маладзечанец раіць не саромецца звяртацца да беларусаў, з якімі вы сустрэнецеся каля расійскіх ДАІ. Яны звычайна шчыра адгукаюцца і дапамагаюць.

Прыехаўшы ў Беларусь, машыну афармляюць у мясцовым ДАІ. Яна пасылае запыт у Расію, каб праверыць гісторыю транспарту.

Купляючы цяпер аўтамабіль ці тэхніку з Расіі, можна выйграць 30% ці нават 50%, а можна згубіць усё.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Фота kart.by.

**Беларусы могуць выгадна купіць машыну ў Расіі, але ёсць вялікая рызыка заблытацца, прыехаць з пустымі рукамі ці ўвогуле застацца і без грошай, і без машыны.**

АЎТАМОТА

# А ты падрыхтаваў сябе і свой аўтамабіль да зімы?

**Першыя па-зімоваму халодныя і снежныя дні майстэрні шынамантажу працуюць ва ўзмоцненым рэжыме.**

Сёлета Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб абавязковым выкарыстанні ад 1 снежня да 1 сакавіка зімовых аўташын. Указ уступае ў сілу ад 16 студзеня.

Несумненна, гэта вынаходніцтва – зімовая гума – надзвычай важнае. Але, на жаль, для многіх вадзіцеляў падрыхтоўка да зімы на "пераабуванні" і заканчваецца.

Зімовыя шыны з'явіліся не так ужо і даўно. А як вадзіцелі выжывалі да гэтага часу? Аўтамабілі ездзілі, і вадзіцелі не чулі пра "дзень бляхара". Яны разлічвалі на веды.

### Факт першы

Надвор'е паскуднае. Дарога слізкая. Пахмурна, бачнасць недастатковая. На стаянку прыходзіць дзяўчына – малады недасведчаны вадзіцель. Садзіцца за руль свайго аўтамабіля і ад'язджае.

Праз некаторы час на аўтастаянцы з'яўляецца яе мама. Таксама прыйшла за сваім аўтамабілем. Маме задаў пытанне: чаму яна дапусціла дачку да кіравання аўтамабілем пры такой складанай абстаноўцы? Тая адказала, што, ацаніўшы абстаноўку, яна сама сказала дачцэ, што будзе больш правільна, калі скарыстацца аўтамабілем. Нямая сцэна.

### Факт другі

Зіма, слізкая дарога. Ля скрыжавання вуліц Вялікі Гасцінец і Крынічная ў Маладзечне спыняецца аўтамабіль, каб аказаць сяброўскую паслугу і падвезці пешахода – мяне. За рулём дама.

Аўтамабіль кратаецца з месца і рухаецца да цэнтра горада. На спуску да скрыжавання з вуліцай Гарадоцкай вадзіцелька разагнала машыну і рычаг пераключэння перадач перавяла ў нейтральнае становішча. Гэта, заўважце, на слізкай дарозе і перад скрыжаваннем са святлафорам. Аказваецца, вадзіцель і не чула аб рэкамендацыі пры руху па слізкім дарожным пакрыцці рухацца з уключанай перадачай і прымяняць тармажэнне адначасова з дапамогай тармазной сістэмы і рухавіка.

### Факт трэці. Казус

На вуліцы мароз. Кіроўца прыходзіць на ахоўную стаянку. Акумулятар благі. Рухавік запусціць не атрымалася. Ён сыходзіць і вяртаецца ўжо з трактарам "Беларусь". Трактарыст бярэ аўтамабіль на буксір. І цягне яго па вуліцы Дудко насупраць будынка ДАІ. Вадзіцель уключае нізкую перадачу і стараецца запусціць рухавік.

Аднак на слізкай паверхні колы не пракручваюцца, рухавік не заводзіцца. Аўтамабіль пачынае насіць з боку ў бок. Акрамя таго, што на буксіры, механічныя пашкоджанні атрымалі яшчэ два аўто, якія сталі паўзбок. Казаць аб кампенсацыі матэрыяльнай шкоды праз страхоўку не даводзіцца: пры буксіроўцы на сэпцы ДТЗ не з'яўляецца страхавым выпадкам.

Цяпер вадзіцелі мала ўвагі надаюць падрыхтоўцы аўтамабіля да эксплуатацыі зімой. Дарэчы, сіноптыкі папярэджваюць значнае паніжэнне тэмпературы ў студзені і лютым 2015 года.

Заўсёды лічыцца неабходным прамыўка паліўных бакаў, абслугоўванне паліўнай сістэмы і запальвання. Праводзіцца праверка на адначасовае спрацоўванне тармазной сістэмы ўсіх колаў, спраўнасць ABS і іншых сістэм, якія садзейнічаюць бяспецы руху. Мяняецца пры неабходнасці на адпаведную маторную аліву. Правяраецца тэмпература замярзання ахаладжальнай вадкасці. Заліваецца адпаведная вадкасць у бачок шклоачышчальніка і г.д.

Асаблівую ўвагу трэба надаць пераходу на зімовае дызельнае паліва.

### Маленькія сакрэты ад Мумрыкава

Як праверыць якасць зімовага паліва.

Пры запраўцы на АЗС вазьміце асобна ў посуд крыху паліва і пастаўце ў маразілку. Пакладзіце градуснік, ён пакажа дапушчальную тэмпературу.

На стаянцы не пакідайце аўто пры зацягнутым ручным тормазе. Мокрыя дэталі тармазной сістэмы могуць прымерзнуць адна да адной, і колы перастануць пракручвацца.

### Што рабіць, каб быць спакойным?

На жаль, цяпер няма ніводнай аўтанавучальнай установы, дзе б можна было дадаткова прайсці навучанне па ваджэнні аўтамабіля пасля перапынку або па асаблівасцях ваджэння ў зімовых умовах.

Калі хочаце спакойна ад'ездзіць усю зіму, то адказна пастаўцеся да падрыхтоўкі самога аўтамабіля.

Добрай вам дарогі!

**Яўген МУМРЫКАЎ, ветэран ДАІ, вадзіцель.**

СПАДЧЫНА

# Валанцёр адбудаваў Крэўскі замак у 3D

## Цяпер дастаткова толькі камп'ютара і інтэрнэта, каб зладзіць тур у мінулае і разгледзець у дэталях замак, якога больш няма

**МАЛАДЗЕЧНА. Аўтар праекта пад псеўданімам Ахрэм Белабровік просіць разумець, што гэта не чыста навуковы праект. Дакладней будзе назваць яго артпраектам, пабудаваным на навуковых фактах і гістарычных даследаваннях.**

У гэтым ён бачыць яго адметнасць.

– Валодаючы такім магутным інструментам, як трохмерная камп'ютарная графіка, можна намаляваць, што заўгодна. І нашмат больш эпічнае, і нашмат больш уражальнае, – зазначае аўтар. – Ствараючы, я кіраваўся фактамі. Зусім не хочацца хлусліва перабольшваць у ілюстрацыі старонак нашай гісторыі. Яна сама па сабе дастаткова эпічная і велічная.

Скрыншот з сайта VKL3D.COM.

**Энтузіяст пад псеўданімам Ахрэм Белабровік стварыў віртуальны Крэўскі замак. Каб пашпацыраваць па ім, дастаткова зайсці на сайт VKL3D.COM.**

### Падштурхнула расчараванне ў вачах сына

Калі сын Ахрэма Белабровіка быў маленькі, бацька шмат распавядаў яму пра гісторыю нашай краіны. Пра яе росквіт, часы Вялікага Княства Літоўскага, пра знакамітых князёў, турніры, паходы ды слаўныя перамогі. Пра моцныя цытадэлі, велічныя палацы ды заможныя мястэчкі.

– І ён верыў мне, як верыць сын бацьку, – распавядае Ахрэм. – Аднойчы мы паехалі на экскурсію ў Навагрудак, калыску нашай дзяржаўнасці, першую сталіцу ВКЛ, да гары Міцкевіча і замка Вялікіх князёў. І калі сын пабачыў, што ад гэтага ўсяго засталіся толькі неахайныя руіны, сын павярнуўся да мяне і з непрыхаваным расчараваннем спытаў: "Ты гэта меў на ўвазе?" І, гледзячы ў яго вочы, поўныя смутку, я шмат зразумеў. Чаго вартыя тысячы слоў пра былую веліч, калі на свае вочы можна ўбачыць толькі развалiны, што засталіся ад шматлікіх войнаў і абыякавасці нас, нашчадкаў, да спадчыны?

Першапачатковая, але яшчэ невыразная задума аб віртуальным адраджэнні таго, што канула ў гісторыі і часе, з'явілася ў Ахрэма менавіта тады, на тым месцы, больш за сем гадоў таму.

### Два гады пайшло на распрацоўку праекта

У стварэнні Ахрэму дапамагала каманда такіх жа неабыякавых. Сярод іх **Андрэй Шулаеў**, магістр архітэктуры, гісторыі, спецыяліст па ахове культурнай спадчыны, па абарончай архітэктуры, вядучы архітэктар, старшыня праўлення мясцовага дабрачыннага фонду "Крэўскі замак". Яго навуковае абгрунтаванне па замку змешчанае на сайце праекта. Дапамагаў і мастак, і праграміст.

Ідэя праекта цалкам празрыстая. Распрацоўшчыкі аднаўляюць знешні выгляд значных гістарычных мясцін, каб можна было пабачыць на ўласныя вочы, як яны выглядалі стагоддзі таму.

– Менавіта ўбачыць, а не прыгадаць, што нешта было ў школьным курсе ці ў нейкай перадачы. А некаторыя, можа, упершыню даведаюцца, што тут была не толькі зямля сялян і саламяных стрэх, а магутная краіна замкаў і палацаў. Так што наша мэта – адрадзіць веліч і дух мінуўшчыны праз архітэктуру. Каб кожны ўбачыў, што мы маем гісторыю, якой можна ганарыцца.

У аўтара былі дзве цяжкасці ў працы над віртуальным замкам.

– Катастрафічны недахоп часу і, натуральна, недахоп інфармацыі, – прызнаецца Ахрэм.

Сёння, адкрыўшы сайт праекта і апынуўшыся ля сцен віртуальнага Крэўскага замка, вы можаце пашпацыраваць па ўнутраным двары, падняцца на другі паверх і паглядзець на краявід зверху. Аднак у збудаванні, што там месціцца, і ў вежу пакуль уваходу няма.

– Гэта даволі балючае пытанне. Сутарэнні, дзе мог сядзець Вітаўт, намалявалі, але не дарабілі. І пакуль у праект гэта не ўвайшло. Адна тэхнічная дапрацоўка да Крэва будзе дакладна. Усе панарамы звядзём у адну ды выкладзем для вольнага сцягвання. Ёсць мара ў іншым праекце, віртуальным замку ў Гальшанах, хоць адну залу зрабіць, але зноў жа трэба час і інфармацыя па дэталізацыі.

### Самае складанае ў праекце

Шмат часу, як адзначае аўтар, пайшло на пошук спецыялістаў, апрацоўку інфармацыі, падбор "жалеза" ды прыцірку праграмнага забеспячэння.

– У сярэднім на саму працу атрымлівалася выдзяляць па некалькі гадзін вечарамі. І гэта не ўлічваючы шматгадзінныя "рэндары", калі камп'ютар пралічвае адбудаваны папярэдне рукамі малюнак-панараму. Самае складанае – пераключацца з камп'ютарнай работы на працы на такую ж камп'ютарную ў вольную хвіліну.

Сёння Ахрэм жыве ў Мінску і працуе ў сферы інфармацыйных тэхналогій. Яго бабуля, дзядуля, бацька жылі ў Маладзечне. І сам ён таксама тут некалькі гадоў пражыў. Бабуля родам з вёсачкі паміж Вілейкай ды Смаргонню. А ў самой Вілейцы жыве блізкая радня.

### Адкуль ідэя? Ад сэрца

Дакладных аналагаў такога праекта ў свеце аўтар не знайшоў.

– Былі спробы і Парыж, і Лондан старажытныя аднавіць. Суседзі-літоўцы рабілі нешта падобнае, таксама на аснове камп'ютарнай графікі. Даволі маляўніча, прыгожа, але – толькі малюнкі. Так, як прадугледжвае праект, комплексна ды разгорнута, пакуль нідзе не сустракаў. Таму калі гаварыць больш пафасна – ідэя ад сэрца, – усміхаецца суразмоўца.

І сэрца, відаць, у валанцёра ўсё яшчэ гарыць. Таму што спыняцца на зробленым ён не збіраецца, гатовы працаваць далей. На карту ўжо нанесены Гальшанскі замак. Туды таксама ўжо можна зазірнуць. Адкуль у аўтара натхненне?

– З аднаго боку, усё ад нашых краявідаў і гісторыі. З другога, як ні парадаксальна, – ад шэрых, амаль аднолькавых сучасных будынкаў ды хмурых твараў мінакоў. Хацелася прынесці хоць крышку радасці ды гонару за сябе і сваіх продкаў.

Цяпер сыну Ахрэма Белабровіка ўжо 19 гадоў. Калі ён убачыў віртуальны Крэўскі замак, усклікнуў: "Ну дык гэта зусім іншая справа!"

А пасля ўзяўся маляваць на паперы свой уласны выдуманы палац.

**Адрас сайта, дзе можна ўбачыць віртуальны Крэўскі замак VKL3D.COM**

**Настасся РОЎДА.**

Фота забяспечана Мікалаем ІВАНЕНКАМ.

**Вучаніцы 9 "А" класа гімназіі Арына Дубяга і Вікторыя Данілава на вечарыне ў касцюмах Вілейскага строю.**

НАРОДНЫЯ ТРАДЫЦЫІ

# Мінскія і вілейскія музыкі наладзілі танцы

**ВІЛЕЙКА. Віляйчане 20 лістапада маглі трапіць у атмасферу традыцыйнага беларускага свята.**

У вілейскай гімназіі №2 прайшла вечарына народнага танца. Яна аб'яднала прыхільнікаў традыцыйнай беларускай культуры з Мінска і Вілейкі. Гралі разам музыкі: **Таццяна Матафонава, Аляксей Крукоўскі, Сяргей Лісіца, Міхаіл Ермаковіч і Уладзімір Версан**.

У гімназіі і атмасферу адпаведную стварылі: упрыгожылі памяшканне выставай выцінанкі. Прыйшлі людзі рознага ўзросту: завіталі навучэнцы, настаўнікі і супрацоўнікі гімназіі, удзельнікі клуба ветэранаў Палаца культуры, іншыя госці. Так што ў народным танцы кружыліся і людзі шаноўнага ўзросту, і моладзь. Сярод апошніх былі ўдзельнікі танцавальнага ансамбля "Карагод" і фальклорнага гурта "Чабарок".

Маглі яны павучыцца розным танцам: польцы і шляхецкаму вальсу, кракавяку і кадрылі. Госці з Мінска не толькі вучылі танцаваць. Але і самі здымалі на відэа майстар-клас вядомай у Вілейцы фалькларысткі **Зінаіды Крупскай**. Яна доўгі час вывучала танцавальную культуру Вілейшчыны.

– Вечарына прайшла вельмі цікава, удзельнікам яна спадабалася, – дзеліцца намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце гімназіі **Мікалай Іваненка**. – Разышліся з такім настроем, што трэба гэту справу працягваць.

Падобныя мерапрыемствы ладзяцца ў гімназіі не ў першы раз. Гасцямі ўстановы былі вядомыя ў Беларусі музыкі і фалькларысты, тут штогод праводзіцца фальклорны фестываль "Вясёлка".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

АКЦЫІ

# Пракансультуюць да Дня інваліда

**МАЛАДЗЕЧНА.** У бібліятэцы сямейнага чытання "Верасок" пройдзе акцыя ў панядзелак, 1 снежня. Людзі з інваліднасцю і члены іх сямей змогуць атрымаць бясплатную кансультацыю псіхолага і юрыста. Акцыя пройдзе ад 16:30 да 18:00.

**Аддзел інфармацыі.**

**Размясці сваю аб’яву не менш за ТРЫ РАЗЫ, і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце Rh.by**

• Дом цагляны ў Маладзечне, 1 паверх, 120 кв.м, гараж з ямай, 2 хлявы, летняя кухня, лазня, газавае ацяпленне, водазабеспячэнне, выгоды ў доме, участак 15 сотак, магчымы абмен, разгледжу любыя варыянты. Т. (8-029) 3535964.*

• Катэдж у Мядзеле, краі нарачанскіх азёр, 170 кв.м, каналізацыя, цэнтр, ацяпленне, два гаражы. Т. МТС (8-029) 8756016.*

• Пакой 16,5 кв.м. з лоджыяй у 3-пакаёвай кватэры. Т. (8-029) 8803727.

• Паўдома ў в. Солы на беразе рэчкі. Т. Вэлком (8-044) 4992110.

• Паўдома ў Валожыне, вул. Савецкая (у цэнтры горада). Т. Вэлком 1300753.

## КУПЛЮ

• 1-2-пакаёвую кватэру без пасярэднікаў у г. Маладзечне. Тэрмінова. Т. МТС (8-033) 6262524.*

• Дом. Т. (8-029) 3780215.*

• Кватэру ў Вілейцы, р-н Зеніт. Т. (8-029) 7512015.

## ЗДАМ

www.kdv.by
Квартиры для Вас
ПП «Кватэры для Вас». УНП 490697092
Здаюцца **1-2-3-пакаёвыя кватэры**. Пасутачна. Камандзіраваным прадаставім справаздачныя дакументы. Ф/а любая. Размесцім гасцей. Магчымае браніраванне. Працуем па РБ.
**Тэл. (8-029) 371-11-10**

## НАЙМУ

• 2-пакаёвую кватэру на доўгі час, тэрмінова. Т. МТС (8-029) 7692756, Вэлком (8-044) 5861889.*

• Кватэру ў Вілейцы для маладой сям’і з двух чалавек, дорага! Т. (8-029) 7581393, Сяргей.

• Кватэру ў Маладзечне ці Вілейцы. Т. (8-029) 6010581.*

• Кватэру ў Маладзечне. Тэрмінова. Т. (8-029) 7616457.

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

• **“МАДЛЕН”** – новае паступленне еўрапейскіх мадэляў. Маладзечна, вул. Валынца, 12, 2-і паверх. ІП Кароль Т. Н. УНП 690494373. Т. (8-029) 3611420.*

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы на любы густ і пад ваш бюджэт. Т. (8-029) 6188716.*

• Прафесійныя музыкі, вясёлы тамада, жывы гук. Т. (8-025) 5144071.*

• Тамада-баяніст, дыскатэка на вяселле, юбілей, навагодні карпаратыў. Сайт: www.toast-master1.narod2.ru УНП АА 9523648. Т. МТС (8-029) 5510526.*

**Натяжные потолки**
**Укладка ламината**
Быстро, качественно
*Выезд в регионы*
Т. **(8-029) 9331933**
**(8-033) 6706666**
ИП Малько А.Н. УНП 691511819

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• Відэа-фота ўрачыстасцяў, святаў, карпаратываў. Тэлестудыя «Наш час». УНП 601058195. Т. (8-029) 6201941, (8-0176) 544670.*

• Фота і відэа 16:9 вяселляў, юбілеяў і іншых урачыстасцяў. Слайд-шоу і фотакнігі. Аблічбоўка відэакасет. Параім музыкаў. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ ПА ГОРАДЗЕ, РБ І РФ, 4 Т., ДАСТУПНЫ КОШТ! ІП ШАЛУХА И.А., УНП 691516134. Т. (8-029) 3288140.***

• Івека – бартавая да 3,5 тон, эвакуатар, РБ і РФ, даступныя цэны. ІП Кроер А.Л., УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*

• МАЗ, грузападымальнасць 10 т, па РБ. ІП Чубін В.В. УНП 691509491. Т. МТС 5740702, Вэлком 3108569.*

• МАН бартавы, 20 т, 13,6 м; МАН гідраманіпулятар, 20 т. ІП Шеремет В.В. УНП 691289007. Т. (8-029) 2713567.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП “Саліра”. УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абітурыет! Руская і беларуская мовы. Падрыхтоўка да ЦТ. ІП Гузава О.Д., УНП 691500560. Т. (8-033) 3763969.

• Аграсядзіба “У Мароза” запрашае на карпаратывы. Т. (8-029) 6650884, (8-029) 8726471.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• **ДАХАВЫЯ РАБОТЫ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ, УЦЯПЛЕННЕ, АДДЗЕЛКА** ўнутраная, вонкавая. Вагонка. Сайдынг. Блок-хаўс. ІП Ходаль В.А. УНП 391074376. Т. Вэлком (8-029) 9920647, МТС (8-029) 7698467.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Квартальныя календары на 2015 год з фотаздымкамі каханых – 60 000 руб. Смаргонь, Танкістаў, 8. ІП Улан Р.В., УНП 690288442. Т. (8-01592) 31570*

• Майстар-еўрааддзелачнік зробіць кваліфікаваны еўрарамонт. Т. (8-044) 5724916.*

• **ПАСЛУГІ ЭЛЕКТРЫКА** (рамонт, мантаж і інш.). Продаж і ўстаноўка сістэм відэаназірання, відэадамафонаў. ІП Драгун А.О. УНП 691884197. Т. МТС 7706263, Вэлком 9710597, Аляксандр.*

• Пасутачная арэнда поніцыклаў у Вілейцы. Нашы механічныя конікі стануць “іскрынкай” вашага вечара, будзе гэта дзіцячы дзень нараджэння, карпаратыўная вечарынка, вяселле ці ўрачысты банкет – любая падзея стане больш яркай і ўрачыстай. ЧП “ВіЛуГен”, унп 691174184. Звяртацца па т. (8-029) 7787960.

• Продаж і мантаж газавых катлоў. Растэрміноўка-крэдыт. ІП Якушонак Д.В. УНП 391179266.

• **РАМОНТ ТУРБІН.** ТАА “Турбацэнтр”. УНП 191531213. Т. (8-029) 7639480, (8-044) 7639480.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• Ручное **КАПАННЕ КАЛОДЗЕЖАЎ**, каналізацыі. Чыстка калодзежаў. Кладка каналізацыйных труб, падводка вады ад калодзежа. ІП Шніп В.А. УНП 691882125.Т.МТС (8-029)5062694*

• Сантэхнічныя работы. Замена старых водаправодных сетак. Ацяпленне. Каналізацыя. Гарантыя на зробленыя работы. ІП Шляпо В.В., УНП 691175364. Т. (8-029) 1279252, (8-029) 5587767.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ**. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 3493379, (8-029) 5755757.*

• Фундамент, кладка, дах, зруб. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-029) 5024571.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШКЛЯНЫЯ РАБОТЫ. УЗОРЫСТАЕ, МАТАВАЕ, АКОННАЕ ШКЛО, ЛЮСТЭРКІ. ДАСТАЎКА, НАРЭЗКА, УСТАНОЎКА. ІП ЦІХАНОВІЧ П.П. УНП 691506875. Т. (8-033) 3293993, (8-029) 9512185.**

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы для дарослых, выпускныя вечары. ІП Кананові І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692 МТС, (8-044) 4904791 Вэлком.*

# РОЗНАЕ

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Вагонка (елка, хвоя, алешына, ліпа). Дошкі для падлогі, імітацыя бруса. Блок-хаўс, дошка абразная. ІП Скарук М.Т. УНП 691500282. Т. (8-029) 6541563.*

■ **САЙДИНГ НАРУЖНЫЙ от 47 тыс.руб. за кв.метр**
■ **БЛОК-ХАУС**
■ **ВОДОСТОЧНЫЕ СИСТЕМЫ**
■ **МЕТАЛЛОЧЕРЕПИЦА**
■ **ПРОФНАСТИЛ, ОНДУЛИН**
■ **ИЗОПЛАТ-ПЛИТЫ, OSB-ПЛИТЫ**
■ **УТЕПЛИТЕЛЬ всех видов**
■ **БАЛКОННЫЕ РАМЫ**
■ **ПИЛОМАТЕРИАЛЫ**
■ **КАРКАСНОЕ ДОМОСТРОЕНИЕ**
*Профессиональный монтаж, замер, доставка.*
*Наличный и безналичный расчет, чековая книжка*
Тел. Велком **(8-029) 624-93-71**
МТС **(8-029) 762-90-36**
ООО «УютТоргСтрой» УНП 691514328

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка і бульбакапалка да міні-трактара. Валожын. Т. (8-044) 5543365.*

• Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

• Трактар МТЗ-50. Валожын. Т. (8-01772) 36755, (8-044) 5747286.

• Трактар МТЗ-82УК. Т. (8-029) 7871546.

**Бытавая тэхніка**

• Швейная машынка “Алеся” з электраприводам б/у і батарэі чыгунныя б/у. Мядзельскі р-н. Т. (8-033) 6623876.. Т. (8-033) 3520062.

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ НТВ +, “ТРЫКАЛОР”. АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 7627898, (8-029) 3326779.***

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ “ТРЫКАЛОР”. АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ НТВ + І ТРЫКАЛОР ТВ. АКЦЫІ. РАСТЭРМІНОЎКА БЕЗ %. ДАСТАЎКА І ЎСТАНОЎКА БЯСПЛАТНА.** ІП Емяльянаў А.В. УНП 600361413. **Т. (8-029) 5702212, (8-029) 9056393.***

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ.** Кантроль якасці. Т. (8-029) 5702212.*

• **АКТУАЛЬНА! АНТЭНА СПАДАРОЖНІКАВАЯ**. Трыкалор. Т. (8-029) 9056393 Вэлком.*

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ “ТРЫКАЛОР” – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД “Тройка”, п. 536. ПГУП “Ліцераль”. УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

• Сістэмны блок з маніторам. Т. (8-029) 1966779.*

Патрабуецца
**токар**
з/п 7 млн. руб.
Тэл. **(8-029) 333-00-00**
**703-03-03**
ТАА «Кропка апоры». УНП 690387150

**Пачні рамонт з акна**
**ВОКНЫ ПВХ**
• Дзверы металічныя
• Алюмініевыя рамы
• Жалюзі
• Металічныя вырабы
КРЭДЫТ!
**АХОЎНЫЯ РАЛЕТЫ**
Т. **(8-029) 878-22-11, 678-22-11**
ІП Піліпенка. УНП 690461088

**Магазин «ОБОИ»**
**Обои (винил, флизелин)**
**Фотообои**
**Картины**
**Самоклеющаяся пленка**
**Наклейки (стикер)**
**Плинтус потолочный**
**Водонагреватели** (10-100 л)
Много, красивые, недорого
*Молодечно, В. Гастинец, 143Б*
**ТЦ «Модуль»,**
**1-й этаж, магазин «Обои»**
С 10-00 до 19-00,
сб.-вс. с 10-00 до 17-00
ООО «Интерград». УНП 590927978

ПРОДАДИМ
**виноводочные ящики**
1 000 штук
Тел. МТС **(8-029) 7665160.**
ЧПТУП «Рабцевич», УНП 690620759

**Мэбля**

• Мэбля б/у, нядорага. Т. (8-033) 3520062.

• Секцыя б/у, 4-прадметная. Т. (8-029) 2724835, (8-0176) 740996.*

• Шафа 3-створкавая з антрэсоллю б/у, 800 000 руб; канапа б/у, 1 200 000 руб. Т. (8-044) 7545043.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Авечкі, ягняты ў Маладзечне. Т. (8-029) 7760263.*

• Індыкі на мяса. г. Вілейка. Т. (8-01771) 48177, МТС (8-029) 2524585.

• Кабан в’етнамскай пароды, 45 000 руб за 1 кг, дастаўка. Маладзечна. Т. (8-029) 6795211.

• Карова ў Вілейцы. Т. (8-033) 3433768.

• Козачкі 11 мес., пакрытыя. Маладзечна. Т. (8-029) 7006777.

• Маладняк і мяса трусоў. Т. (8-029) 7628438.*

• Парасяты в’етнамскай пароды. Маладзечна. Т. (8-033) 6316635, (8-0176) 723482.*

**Іншае**

• Батарэі чыгунныя, б/у. Т. (8-029) 8789740.*

• Бутлі 20-літровыя, шкляныя – 6 шт., рыльца – стандартнае. Т.(8-0176) 753046 (увечары), (8-033) 6407558.*

• Вагончык новы, уцеплены, 4000х2500. Т. МТС (8-029) 5752805.*

• Джынсы любых мадэляў. Т. (8-044) 7340300.*

• Дровы, можна колатыя, з дастаўкай, 2 машыны. Т. Вэлком (8-044) 4784873, МТС (8-033) 6510342.*

• Дровы. Вілейскі р-н. Т. Вэлком (8-029) 3405845.*

• Машыны прамысловыя швейныя, аверлок, плоскашыўныя, чаўночныя і інш., 220 V. Т. (8-029) 7663025.*

• **НАВІНКА! ВАДКІЯ ШПАЛЕРЫ** – гэта дэкаратыўнае пакрыццё сцен без швоў. Вельмі практычна для сямей з дзецьмі і жывёламі. Выгадна, надзейна, прыгожа. ІП Ламака А.П., УНП 691885655. Т. МТС (8-033) 6339933, Вэлком (8-044) 4851138.*

• **СУСТРАКАЙЦЕ НОВЫ ГОД ЯРКА! ВЯЛІЗНЫ ВЫБАР ЁЛАЧНЫХ ШАРОЎ, ГІРЛЯНДАЎ, ХЛАПУШАК, МІШУРЫ І СУВЕНІРАЎ. З НАМІ ЖЫЦЦЁ ПРЫГАЖЭЙШАЕ, А ЦЭНЫ НІЖЭЙШЫЯ. ЧАКАЕМ ВАС ЗА ПАКУПКАМІ! КРАМА “БУДАЎНІЧАЯ”, Г. ВІЛЕЙКА, ВУЛ. КРАСІНА, 27. Т. (8-01771) 52380***

• Транспарцёры для гноевыдалення ТСП-160, камплектуючыя да транспарцёра ТСП-160: зорачкі, рэдуктары, э/рухавікі, ланцугі і г.д. ТАА «Лаўтех», УНП 690298046. Т. МТС (8-033) 6378661.

• Футра жаночае, норка, рост 170, размер 44-46, 1 300 000 руб. Т. (8-029) 3167060.

## КУПЛЮ

**Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**

• Трактар Т-25 з навясным ці без. Т. (8-029) 6265423.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. “Беларуская Энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

# ПРАЦА

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Галоўнага бухгалтара дома. Опт, паслугі, грузаперавозкі, будаўніцтва. Стаж больш за 5 гадоў. Т. (8-029) 7632186.*

• Дапамагу папілаваць дровы. Тэлефанаваць пасля 18.00. Т. Вэлком (8-029) 9756978.*

• Масажыста. Тэлефанаваць пасля 18.00. Т. МТС (8-029) 2609392.*

• Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач “Улік ОС”, “Улік МЦ”,”Улік ТМЦ і выпіска са склада”, “Калькуляцыйная картачка”). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 149-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*

## ПАТРАБУЮЦЦА

• Бухгалтар у ААТ «Ак Дэнова». УНП 691174618 ад 23.09.2013г. Т. (8-029) 1344011, (8-033) 6512040.

**МИДИВИСАНА**
ООО Мидивисана, УНП 190243559
ул. Лебедевского, 8, г. Молодечно
В связи с расширением производства компания ООО «Мидивисана» приглашает специалистов следующих специальностей
**Зам. начальника цеха**
**Инженер ОТК**
**Газоэлектросварщик**
**Слесарь МСР**
**Гибщик/ рубщик листового металла**
**Заработная плата 8 млн руб.**
Полный соц. пакет
тел. +375-29-**685-24-35**
+375-176-**50-09-96**

ООО "АНДЕЗИТ" УНП 190481036
**БЕТОН**
**ПЛИТКА тротуарная**
**БОРТ дорожный**
**БОРТ тротуарный**
**ПРОДАЖА, ДОСТУПНЫЕ ЦЕНЫ!!!**
**029-171-66-46 029-175-71-40**


Dziś ukażą się pierwsze wozy „Arbonu"

W dniu dzisiejszym „Arbon" uruchamia 21 wozów dla obsługi pierwszych czterech linij autobusowych.

Do dnia 6 stycznia liczba autobusów powiększy się do 32 maszyn.

Фота аўтобуса “Saurer”, у прастамоўі – “Арбон”. Газета “Słowo” за 1 студзеня 1932 года.



● У СВЕЦЕ ПАЖОЎКЛЫХ СТАРОНАК

# Паедзем катацца на арбоне!



Яшчэ гадоў дваццаць таму я чуў у жывой гутарцы нестарых яшчэ людзей слова арбон. Дапускаю, што і сёння той-сёй на Ашмяншчыне ці Смаргоншчыне ўжывае гэта слова. У дваццатыя-трыццатыя гады мінулага стагоддзя ўся Віленшчына карысталася ім. Арбон – гэта аўтобус. Разгорнем старыя падшыўкі.

Аляксандр МАНЦЭВІЧ.

**Першы нумар віленскай газеты “Słowo” за 1932 год. Новы год. 1 студзеня. На пятай старонцы змешчаная кароценькая, літаральна ў два сказы, інфармацыя, праілюстраваная фатаграфіяй: “Сёння з’явяцца першыя экіпажы “Арбона”.**

“Сёння “Арбон” пускае 21 экіпаж для абслугоўвання першых чатырох аўтобусных ліній. Да 6 студзеня лічба аўтобусаў павялічыцца да 32 машын”.

“Арбон” – сумеснае польска-швейцарскае акцыянернае таварыства, названае па імені горада ў Швейцарыі, дзе выпускаліся дызельныя аўтобусы “Саўрэр”. Але “Саўрэры” хутка сталі называцца ў Варшаве і Вільні “Арбонамі”.

“Арбоны” – прычына шматлікіх віленскіх здарэнняў. Ад дарожна-транспартных да карупцыйных скандалаў.

Ужо ў №3 за 5 студзеня “Słowo” паведамляла аб першым ДТЗ з удзелам гэтага дызельнага аўтобуса.

Газета пісала, што 4 студзеня на вуліцы Вялікай з нявысветленых прычын, але “хутчэй з-за страты кантролю кіроўцы над машынай”, аўтобус, які ехаў з пасажырамі, у момант, калі праязджаў ля ратушы, скіраваў у бок і з усім імпэтам урэзаўся ў прыпаркаваныя сані.

Здарэнне адбылося настолькі нечакана, што агорнутыя панікай пасажыры аўтобуса спрабавалі выскачыць на праезную частку. “…Тым больш, што аўтамабіль імкліва набліжаўся да сцен ратушы. І каб адбылося сутыкненне, з агромністай машыны засталіся б толькі шчэпкі. Усё скончылася трыма разбітымі санямі. З людзей ніхто не пацярпеў”.

У наступным нумары “Słowo” друкуе допіс нейкага віленчука, які хаваўся за псеўданімам “Прахожы”:

“Новы 1932 год мы пачалі пад знакам “Арбона”! Дастаткова выйсці на вуліцу, каб пабачыць прыгожыя аўтобусы, якія праязджаюць праз роўныя адрэзкі часу. Вось зноў набліжаецца адзін з іх…

Шыкоўны фаэтон займае палову праезнай часткі. Попельны знізу, шэра-жоўты ўгары, перацягнуты чырвоным пасікам, дастойна пад’язджае да прыпынку, а пасля хвілінкі рушыць далей…

А як шыкоўна перасоўваецца гэты аўтамабільны Левіяфан па вузкіх вулачках Вільні! Вока не адарваць! Асабліва на паваротах, калі здаецца – яшчэ момант і жахлівая туша “Арбона” раструшчыць вугал каменіцы. Найменш – узыме ходнік.

А тым часам – нічога, хвала богу, усё ў парадку! Не дзівіся, што брычкі, таксоўкі і іншая вулічная драбяза разлятаюцца перад “Арбонам” як плоткі перад кітом!..

Яшчэ больш уразліва выглядаюць “Арбоны” з наступленнем змроку… Ужо здалёк відаць дзве моцныя белыя фары знізу аўто і трэцяя, зялёная, з нумарам маршруту, – угары. Пад верхняй фарай – вялікая шкляная шыльда з назвай маршруту, таксама бачная здалёк дзякуючы унутранаму падсвятленню. Вокны асветленага аўто прасвечваюцца спераду зялёным, па баках белым!.. Ззаду аўтобуса тры чырвоныя сігнальныя ліхтары… Інакш кажучы – сапраўдны парад!

Нават глядзець задавальненне, не кажучы пра тое, што ездзіць! І яшчэ, асабліва ў першыя дні, людзі глядзелі, як на якое дзіва, а ездзілі не дзеля патрэбы, а для прыемнасці, “на спробу”!

І адно толькі псуе паўсюдную радасць – клубы смярдзючага дыму з-пад “Арбонаў” ў часе язды! Кажуць, што гэта часовае – і ці гэта так істотна! – бо інакш прыйдзецца хадзіць па вуліцах горада ў процівагазах”

Акцыянернае таварыства “ТОММАК” у Вільні, дачка АТ “Арбон”, на працягу ўсяго 1932 года было ў цэнтры публічнай увагі. То з-за згаданага чаду з выхлапных труб. Аўтобуснікам нават забаранялася ажыццяўляць рух у некаторыя гадзіны. То з-за невыгоднасці прыступак. Састарэлыя і інваліды не маглі без цяжкасцяў забрацца ў салон.

З гэтым нават звязаны амаль анекдатычны выпадак. Вальдэмар Ваўканоўскі піша на сайце www.wilnoteka.lt аб наступным.

У лютым у Вільню з Варшавы прыехала група інжынераў, каб разабрацца з шэрагам скаргаў пасажыраў. Інжынер Кар (Carr), які тэставаў паездкі па горадзе, высаджваючыся з аўтобуса… зламаў сабе нагу. Ніхто ўжо не аспрэчваў неабходнасці перапрацоўкі прыступак.

Аўтобусы, нягледзячы на шэраг выдатковых мінусаў, усё ж вырашалі праблему перавозак. У студзені 1932 года ў сталіцы нашага краю Вільні гарадскім транспартам карысталіся штодзённа 30 тысяч пасажыраў.

Канешне, сёння прыйдзецца пашукаць чалавека, які з лёту адкажа на пытанне: “Што такое арбон?”. Але “Арбоны” засталіся ў гісторыі Вільні і Віленшчыны. Нягледзячы на тое, што добра-такі давалі чаду. У прамым сэнсе:).

**Пераклад газетных тэкстаў з польскай.**

**Даведка “РГ”.** Газета “Słowo” выдавалася ў Вільні ў 1922-1939 гадах. Выданне выходзіла штодня, акрамя пасляслявяточных дзён. У 1932 годзе гэта газета мае ад 4 да 6 старонак. Тут падаецца інфармацыя з усяго свету, з Польшчы, з Вільні, як галоўнага горада нашага краю, і Віленшчыны. Заснаваў газету выдавец і журналіст Станіслаў Мацкевіч.

● **КАЛЯНДАР**

**30 лістапада.** 115 гадоў з дня нараджэння Міхася Лынькова (1899 – 1975), беларускага пісьменніка, грамадскага дзеяча, народнага пісьменніка Беларусі.

***

**2 снежня.** 135 гадоў з дня нараджэння Фелікса Стацкевіча (1879 – 1967), грамадска-культурнага дзеяча, выдаўца, педагога, актывіста Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады і Таварыства Беларускай Школы. Скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт. З 1923 года – выкладчык лацінскай мовы, а пасля і дырэктар Радашкавіцкай беларускай гімназіі імя Скарыны. Старшыня Галоўнай управы Таварыства беларускай школы (1928). Арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1939 – 1941 настаўнічаў у Вілейцы і Клецкім раёне. У Другую сусветную вайну працаваў суддзёй у Смаргоні. У 1949 арыштаваны і знявolены. Пасля вызвалення ў 1950-я г. жыў у Вільні. Пасля Фелікса Стацкевіча засталіся напісаныя ім успаміны, якія захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва ў Мінску.

***

**3 снежня.** 200 гадоў з дня нараджэння Іосіфа Гашкевіча (1814 – 1872) дыпламата, вучонага-мовазнаўца, даследчыка Японіі і Кітая, натураліста. Даследаваў культуру Кітая, вывучаў кітайскую, карэйскую і японскую мовы. Адначасова займаўся пытаннямі астраноміі і метэаралогіі, сабраў калекцыю насякомых. Адзін з першых іншаземцаў, якому дазволілі наведаць унутраную Японію, у т.л. двор сёгуна (правіцеля Японіі) у Эда (цяпер Токіа). У 1865 годзе з сям’ёй вярнуўся на радзіму. У 1867 годзе выйшаў у адстаўку і жыў у маёнтку Малі (цяпер Астравецкі раён). У г. Хакадатэ на востраве Хакайда яму пастаўлены помнік. У 1994 годзе помнік Гашкевічу адкрыты ў Астраўцы. Яго імем названы заліў у Карэі і некаторыя віды рэдкіх насякомых.

***

**4 снежня.** 140 гадоў з дня нараджэння Льва Альпяровіча (1874 – 1913), беларускага жывапісца. Нарадзіўся ў мястэчку Куранец Вілейскага павета. Скончыў Пецярбургскую Імператарскую акадэмію мастацтваў (1902), вучань Рэпіна, пасля жыў і працаваў у Мінску. Пісаў партрэты, пейзажы, бытавыя кампазіцыі. Некалькі прац мастака захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

***

**75 гадоў** назад (1939) створаная Вілейская вобласць з цэнтрам у Вілейцы.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

КОНКУРСЫ

# На шоу "Я магу!" трапілі восем маладзечанцаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Сярод іх Андрэй Давыдаў, Сяргей Ярук, Андрэй Мікульчык, Кацярына Малец, Дзмітры Іваненка, Віктар і Арцём Кружскія, Аляксандра Шыбут, клуб "Адпачынак" Палаца культуры.**

Мы паразмаўлялі з Дзмітрыем Іваненкам. Гэта не першы конкурс, у якім удзельнічае маладзечанец. І вось нарэшце яму пашчасціла выйсці ў паўфінал конкурсу "Я магу!".

### Забыўся пра конкурс, добра, што флэшка была ў машыне

Мужчына спрабаваў свае сілы ў конкурсах "Акадэмія талентаў", "Спяваючыя гарады", шоу "Народны артыст". Як толькі мужчына ўбачыў анонс, вырашыў паўдзельнічаць. Аднак асабліва не рыхтаваўся.

– У дзень конкурсу ехаў недалека ад Палаца культуры. Тады і ўзгадаў пра яго. Добра, што флэшка з фанаграмамі была ў машыне, – усміхаецца Дзмітры. – Праспяваў першую песню, якая была ў спісе на флэшцы. Гэта песня **Руслана Аляхно** "Зорны дождж". Спяваў яе да канца. Аднак думаў, што не спадабалася журы.

### Спачатку не паверыў вынікам конкурсу

Пра вынікі конкурсу Дзмітры даведаўся ад калегі сваёй жонкі. Жанчына ўдзельнічала ў конкурсе з танцавальнай групай "Гузічкі". Яна і сказала пра вынікі.

– Я ў гэты дзень прыйшоў з работы, лёг спаць, – расказвае Дзмітры. – Чую скрозь сон нехта штурхае. Расплюшчыў вочы – жонка. **Таня** мне і расказала пра вынікі. Спачатку не паверыў. У інтэрнэце знайшоў спіс канкурсантаў.

На наступны дзень патэлефанавалі арганізатары конкурсу.




Дзмітры Іваненка з жонкай Таццянай, шасцігадовай дачкой Лізай і двухгадовым сынам Ягорам.

### Калі выйграе, грошы аддасць на дабрачыннасць

Напрыклад, на лячэнне цяжкахворага дзіцяці. Жонка Таццяна падтрымлівае яго ў гэтым. Гаворыць, што лёгкіх грошай не бывае.

Мужчына марыць прабіцца на вялікую сцэну. Хоча, каб яго талент заўважыў вядомы прадзюсар.

– Хацелася б папрацаваць з **Уладзімірам Кубышкіным**. Мне выпала шчасце ў мінулым годзе паразмаўляць з ім. Ён сказаў, што ў мяне ёсць усе задаткі, каб трапіць на сцэну, адпаведная знешнасць. Ён працуе ў жанры лірыкі, шансона.

Дзмітры гатовы памяняць сваю манеру выканання, жанр, у якім працуе.

### Голас прывёў на працу ў чыгунку

Дзмітры Іваненка расказвае, што амаль усё жыццё быў звязаны з музыкай: удзельнічаў у тэатральнай студыі "Адлюстраванне", спяваў у Доме культуры чыгуначнікаў.

Аднойчы мужчыну папрасілі паўдзельнічаць у конкурсе па грамадзянскай абароне на турыстычнай базе "Вілія". Там занялі трэцяе месца. Перамогу адзначалі, і ў гэты час пад'ехаў начальнік лакаматыўнага дэпо. Паразмаўляў з Дзмітрыем і прапанаваў перайсці на працу.

– Першы год выконваў самую брудную працу – мыў колавыя пары ад лакаматываў, якія ішлі на рамонт. Затым здаў на разрад слесара па рамонце цеплавоза. Стаў працаваць па гэтай спецыяльнасці. Вучыўся на курсах на памочніка машыніста. Вось ужо чатыры гады працую памочнікам машыніста цеплавоза.

### У сям'і Дзмітрыя Іваненкі растуць два маленькія артысты

Летась Дзмітры ўдзельнічаў з дачкой **Лізай** у конкурсе "Алё, шукаем таленты".

Цяпер дзяўчынцы шэсць год, яна вучыцца ў музычным класе.

– Нядаўна папрасіла купіць фано. Адарваца цяпер ад яго не можа. Майму сыну **Ягору** толькі два гады, – расказвае мужчына. – Але калі бяру яго з сабой на выступленні, стараецца ўзяць у рукі мікрафон. Тады пачынае пець на сваёй дзіцячай мове, танцаваць на сцэне.

### У паўфінале – 120 удзельнікаў

Адборачныя туры шоу "Я магу!" праходзілі ў сямі гарадах краіны. У паўфінал выйшла 120 удзельнікаў. Самаму маленькаму з іх было тры гады, самаму сталаму – 86.

Далей у кожным выпуску праекта гледачы могуць аддаваць за кожнага з удзельнікаў свой голас. Самая таленавітага ўдзельніка чакае галоўны прыз – 100 мільёнаў рублёў.

**Галіна СІНІЦА.**

ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – ПРАВЕРЦЕ

# Дарунак нябёсаў – добры дом, шчаслівая сям'я і працвітанне

**На змену году Сініга Каня ідзе год Сіняй Драўлянай Казы, які ўступіць у свае правы 19 лютага 2015 года. Найбольшая ўдача чакае тых, хто нарадзіўся пад апекай гэтай жывёлы.**

Сіні колер дорыць спакой і прымірэнне, выклікае асацыяцыі з сінім морам і ясным небам. Менавіта таму для ўсіх знакаў задыяка наступае перыяд спакою, шчасця, любові.

### Што нясе год Казы

(...1931, 1943, 1955, 1967, 1979, 1991, 2003, 2015 ...)

Год Казы абяцае стаць шчаслівым, прынясе поспех, бо талісманам года выступае бясакародная і вытанчаная жывёла, якая літаральна свеціцца дабрынёй і ласкай. Вядома, прыйдзецца прыкласці намаганні.

Гаспадыня года мае лёгкі і вясёлы характар, але на працягу года настрой можа мяняцца. Так што падрыхтуйцеся да пераменлівасці ва ўласным настроі, і толькі тады можна будзе бесклапотна пражыць увесь год.

**Усімі дзеяннямі цэлы год будзе кіраваць Юпітэр – планета шчасця і вялікіх магчымасцяў. Як лічыць пераважная большасць астролагаў, гэта планета прынясе станоўчыя перамены ўсім задыякальным знакам.**

Год пры ўсім яго дабрабыце будзе даволі бурны, насычаны самымі рознымі падзеямі. Праявяцца станоўчыя пачынанні.

Астролагі раяць пачынаць год з абуладкавання ўласнага жытла. Ён ідэальна падыходзіць для стварэння сям'і. Каза ж стадная жывёла і адначасова адданая, чэсная і вельмі добрая. Менавіта таму адносіны ў сям'і будуць складвацца самым найлепшым чынам.

У многіх пар ёсць шанец нараджэння дзіцяці, аб якім так даўно марылі. Гэта зробіць іх самымі шчаслівымі людзьмі на планеце.

### Козы – гэта талент, вытанчанасць, артыстызм

Людзі, народжаныя ў год Казы, надзелены рознымі талентамі і багатай фантазіяй. Яны мілыя, ветлівыя, далікатныя, элегантныя і артыстычныя. У пераважнай большасці маюць добры густ, разумеюць колеру і формы. А яшчэ яны валодаюць моцнай інтуіцыяй пры зносінах з людзьмі.

Козы ўмеюць падабацца, асабліва, калі гэта ў іх інтарэсах. Яны адстойваюць свой пункт погляду па ўсіх пытаннях. Ніколі не адмовяць іншым у дапамозе.

Схільныя да дабрачыннасці і міласэрнасці. Маюць мноства разумных і карысных парадаў.

Козы маглі б быць самымі чароўнымі з усіх знакаў задыяка, калі б з большым аптымізмам глядзелі ў будучае і менш трывожыліся па розных пытаннях. Ім у жыцці вельмі перашкаджае нерашучасць, сарамлівасць і баязлівасць.

Многія з іх вельмі рэлігійныя, але гэта нікому не перашкаджае, наадварот, у гэтых выпадках Каза становіцца больш мілай, уважлівай ў адносінах да іншых. Яна ўжо кантралюе свае ўчынкі і дзеянні, узважвае і абдумвае іх, умее разблытваць свае праблемы. Прабіўная сіла ў Казы вялікая, але запалу хапае ненадоўга. Яна стараецца так уладкаваць сваё жыццё, каб было як мага менш ваганняў, перамен і пераломаў.

Каза вельмі лёгка дазваляе сябе "прывязваць, але, напэўна, таму, што сваю вяроўку цягне за сабой. Калі яна пасецца на добрым лузе, то будзе спакойнай і паслухмянай, але калі на дрэнным – будзе ўвесь час скардзіцца. А калі яе ўжо выведуць з цярпення – уцячэ.

Для яе важна мець некалькі сапраўдных, закадычных сяброў, чым цэлую роту знаёмых. Важна пакінуць аб сабе добрае ўражанне.

Казу трэба лічыць Скарпіёнам з моцным Сонцам. Гэты сімвал даволі супярэчлівы. З аднаго боку артыстызм, багемнасць, знешняя мяккасць, вытанчаныя манеры паводзін, а з іншага – гэта жорсткі баец за сацыяльныя даброты, для каго мэта заўсёды апраўдвае сродкі.

**Вядомыя людзі**, якія нарадзіліся ў год Казы: Хрыстафор Калумб (1451), Мікеланджэла (1475), Сірано дэ Бержэрак (1619), Аляксандр Пушкін (1799), Ферэнц Ліст (1811), Артур Конан Дойл (1859), Ленін (1870), Беніта Мусаліні, Францішак Аляхновіч (1883), Іосіф Жыновіч, Алесь Звонак (1907), Міхаіл Гарбачоў, Барыс Ельцын (1931), Лех Валенса, Ніна Мацяш, Міхаіл Пташук (1943), Генадзь Давыдзька (1955)...

## Гады́ Казы далі свету нямала геніяў

2015 год ідэальна падыходзіць для нараджэння дзяцей. Бо таго, хто прыйдзе ў гэты свет, абавязкова чакае поспех і вялікае шчасце. Энергія і ўдача будуць вылучаць іх сярод усіх, а лідарскія якасці будуць вызначальнай рысай моцнага характару.

Год ідэальны для нараджэння і таму, што ён прынясе ім асаблівы дар, які дапаможа ў далейшым рабіць грошы нават з паветра. Усе іх пачынанні чакае поспех.

Каза ўжо не адзін раз дарыла грамадству асоб сусветнага маштабу, якія пакінулі значны след у гісторыі чалавецтва.

Кітайцы лічаць, што дзеці, народжаныя ў такі год, хутчэй за іншых атрымліваюць тры дарункі нябёсаў – добры дом, шчаслівую сям'ю і працвітанне.

Козы звычайна добра забяспечаныя, паколькі дзякуючы свайму прыемнаму і велікадушнаму характару часцей за іншых атрымоўваюць спадчыну, падарункі. Чамусьці грошы, прызнанне і ўсё самае лепшае ў жыцці само сцякаецца да прывабнай Казы.

У залежнасці ад сям'і і выхавання, для дзіцяці-Казы важныя яго дом, сям'я і ўвогуле акружэнне. Яму трэба адчуваць сябе ў бяспецы. Але ў яго характары ёсць і меркантыльнасць. Ваша дзіця інстынктыўна ведае, як паклапаціцца пра сябе, як пакарыстацца людзьмі, як здабыць выгаду з абставін.

Такое дзіця адчувае глыбокую сувязь з бацькамі, асабліва з маці. З яго пункту погляду, бацькі заўсёды ведаюць, як лепш.

Цярплівая Каза – добры слухач і паслужлівы сябар. Ёй хочацца дагадзіць блізкім. Заўсёды знойдзе час для тых, каго любіць. Яна не спрачаецца з іншымі ці адкрыта з чымсьці не пагаджаецца. Такое дзіця імкнецца пазбягаць канфліктных сітуацый.

Аднак гэта не азначае, што яно не зможа скарыстацца моцнымі саюзнікамі, якія гатовыя зрабіць усю "брудную работу".

Добра выхаваная Каза можа здавацца слабай і сціплай, бывае спецыяльна робіць такое ўражанне, але пад мяккай шэрсцю яна скрывае сілу і гібкасць.

**Добразычлівасць, дабрыня, усёдараванне – самыя важныя якасці Казы.**

Ваша дзіця кранаюць сумныя гісторыі, яно траціць свой час і нават кішэнныя грошы для людзей, якім цяжка жывецца.

Дзякуючы абаянню і дару пераконваць ваш малы можа змякчыць самыя суровыя сэрцы і дабіцца свайго. У яго ёсць імкненне бачыць ў іншых лепшае.

Каза любіць апякаць іншых. Яе шчырае спачуванне можа лёгка супакоіць каго заўгодна. Яна можа прапанаваць добрыя выхады з цяжкай сітуацыі і праяўляе тактычнасць. Высока цэніць свае адносіны з іншымі людзьмі і з усіх сіл стараецца іх захаваць.

Каза аддае сябе іншым і няшмат просіць узамен.

Марыя УРБАНОВІЧ.

У наступным нумары "РГ" рыхтуе тэматычную старонку "Калядная магія: як удала прыбраць дом"

Запрашаем рэкламадаўцаў

Тэлефоны "РГ": (8-0176) 75-38-41, Vel (8-044) 566-26-99



# Як выбраць самы лепшы навагодні падарунак

**МАЛАДЗЕЧНА. Што падарыць блізкім на навагоднія святы? Чым дагадзіць начальніку і любімай цешчы? Як не трапіць у пастку самых бязглуздых падарункаў?**

Спадзяёмся, што гэты артыкул дапаможа не разгубіцца вам у багатым асартыменце ў крамах і спланаваць выдаткі на падарункі.

### Маме – новы міксер

Мы будзем рады, калі топ-3 падарункаў вам дапаможа.

**1. Ювелірнае ўпрыгожванне**

Жанчыне заўсёды ў падарунак прыемна атрымаць ювелірнае ўпрыгожванне. Пацешце любімую маму новымі завушніцамі ці кулонам.

**2. Бытавыя прыборы**

Уважліва прыслухоўвайцеся, пра што вам гаворацЬ у размове. Наўрад ці яна будзе рада дарагім завушніцам, калі толькі напярэдадні намякала вам, што сапсаваўся любімы міксер або добра было б мець кухонны камбайн, каб не церці бульбу рукамі.

**3. Адзенне**

Ваша мама заўсёды вам дарыла ўтульнасць і клопат. Паклапаціцеся пра гэта цяпер вы. Падарыце ёй прыгожы новы халат або мяккі шалік.

### Каханай – бялізну

Што падарыць каханай дзяўчыне, мяркуем, вы і так ведаеце. Але для тых, хто у разгубленасці, спіс ніжэй:

**1. Ювелірнае ўпрыгожванне**

Тут без варыянтаў. Такі падарунак будзе да месца заўсёды. Але памятайце пра тое, што пярсцёнак усе жанчыны лічаць намёкам. Можна выбраць нейтральны варыянт: завушніцы, бранзалет, ланцужок.

**2. Бялізна**

Кожная дама марыць атрымаць ад свайго каханага прыгожую каробку са спондім. Каб падарыць жонцы, дастаткова вывучыць біркі яе бялізны з шафы. Аптымальны варыянт – камплект з пеньюара і халаціка. Калі не ўпэўненыя ў выбары, падарыце адпаведны сертыфікат.

**3. Модныя гаджэты**

Ні адна дзяўчына не адмовіцца ад новага тэлефона. І ад планшэта, і ад электроннай кнігі. Палёт фантазіі, адным словам.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**Навучэнец Вадзім Каспяровіч прыехаў у Маладзечна з Іўя вучыцца ў політэхнічным каледжы. У вольны час можна выбраць падарунак ва ўнівермагу "Маладзечна".**

### Каханаму, галоўнае, каб падарунак нагадваў пра вас

**1. Прышпільныя гаджэты**

Мужчыну, адносіны з якім у стадыі букетнацукеркавага перыяду, трэба дарыць падарункі, якія будуць нагадваць пра вас. Напрыклад: радыё для душа, прышпільныя партатыўныя калонкі, любыя гаджэты, якія працуюць ад USB.

Цудоўным падарункам будзе гадзіннік. Што ж яшчэ будзе нагадваць пра вас так, як гадзіннік, які мужчына будзе заўсёды насіць на руцэ?

**2. Рэчы для аўто**

Калі каханы праводзіць частку свайго жыцця за рулём аўтамабіля, то выдатным падарункам для яго стане бірулька з срэбра або функцыянальная бірулька, якая ўмее вымяраць ціск у шынах ці размарожваць замкі. Для прафесійных кіроўцаў добрым падарункам стане прылада антысон, які выдае сігнал пры нахіле галавы.

**3. Гальштук – таксама падарунак**

Каханаму мужчыну дазваляецца дарыць споднюю бялізну, футболкі, гальштукі. Можна падарыць запінкі.

### Дзецям – толькі лепшае

Тут трэба ўлічваць, каму вы збіраецеся рабіць падарунак: дзяўчынцы ці хлопчыку. Маленькай прыгажуні падарыце дзіцячую касметыку, ляльку, мяккія цацкі. Хлопчык будзе задаволены канструктарам, дзіцячай чыгункай, папулярнымі цацкамі з мульцікаў, радыёкіруемай машынкай ці верталётам.

Калі дзіця ўжо выйшла з узросту цацак "ангры бёрдс" ці лялек "Вінкс", можна парадаваць яго MP3-плэерам, прышпільнымі флэшкамі, моладзевымі гадзіннікамі, настольнымі гульнямі.

### Начальніку купляем падарунак разам з калектывам

Добрая беларуская традыцыя – дарыць агульны падарунак кіраўніку ад калектыву. Такі варыянт дазваляе выбраць за сабраныя грошы нешта прыстойнае. Маючы на руках дастатковую суму, мужчыну-кіраўніку можна купіць салідны настольны прыбор з ручкай, скураны штодзённік, арыгінальны насценны гадзіннік, барометр або карціну.

Арыгінальным падарункам стане якая-небудзь мініяцюрная гульня для дарослых ў незвычайным дызайне, напрыклад, міні-казіно, покер, нарды, шахматы.

Жанчыне-кіраўніку спадабаецца электронная фотарамка, сейф-шкатулка ў выглядзе кнігі, флэш-карта ў корпусе гламурнага кулона або пярсцёнка.

### Не забудзьцеся пра сябе, любімую

Па ўсіх навагодніх прыкметах, каб год быў шчаслівы, яго трэба сустрэць у абноўцы. Пачніце свята з сябе. Падарыце сабе сукенку, блузку, касцюм, пра якія марылі цэлы год.

Памятайце, што ваш падарунак павінен быць ад шчырага сэрца. Тады ён абавязкова стане любімым.



Наталля ТУР.
E-mail: natali.turenok@gmail.com

СПАБОРНІЦТВЫ

# Святары гулялі ў міні-футбол у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Каманда Гродзенскай дыяцэзіі ў трэці раз выйграла чэмпіянат па міні-футболе сярод каталіцкіх святароў Беларусі. Адбыўся турнір у Маладзечне 24 лістапада.**

У спаборніцтвах бралі ўдзел чатыры каманды. Кожная гульня складалася з двух таймаў па 12 хвілін.

Галоўная інтрыга чэмпіянату заключалася, бадай, у тым, каб прадбачыць, ці здолеюць каманды скласці годную канкурэнцыю гродзенцам і перарваць іх бяспройгрышную серыю на двух чэмпіянатах запар.

Найбольш рэальнымі прэтэндэнтамі на змяшчэнне лідара былі каманды Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Віцебскай дыяцэзіі – заваяваць кубак у папярэдніх чэмпіянатах ім перашкаджалі толькі паражэнні ад гродзенцаў.

Аднак каманда з Гродзенскай дыяцэзіі перамагла ва ўсіх матчах: каманду Віцебскай дыяцэзіі – 2:1, каманду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі – 1:0, а ў трэцім туры разгромілі Пінск – 8:0. За каманду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі гуляў таксама Мітрапаліт **Тадэвуш Кандрусевіч**.

**Статыстыка турніру:
Лепшы бамбардзір – кс. Антон Лагуцёнак
Лепшы галкіпер – кс. Юры Гурскі
Лепшы гулец – кс. Францішак Рудзь**

### Святарам не хапае футбольнай падрыхтоўкі

– Асноўная праблема святароў-футбалістаў Беларусі – фактычна поўная адсутнасць базавай футбольнай падрыхтоўкі, – прызнаўся трэнер футбольнай каманды Гродзенскай дыяцэзіі **Яўген Сакалоўскі**, які трэніруе і зборную Беларусі святароў па міні-футболе. – Свае трэніроўкі мы пачыналі за месяц, больш актыўна займаліся ўжо бліжэй да чэмпіянату. На трэніроўцы адпрацоўваем не толькі тэхніку, але і шмат размаўляем аб стратэгіі. Канешне, гэта не проста, бо не ўсе святары могуць прыехаць на трэніроўку, але я задаволены, што сёння мы згулялі на ўзроўні.

Яўген Сакалоўскі дадаў, што лічыць наяўнасць у камандзе свецкага трэнера плюсам:

– Калі каманду трэніруе святар – свой сярод сваіх, – у камандзе могуць з'яўляцца любімчыкі, ды і стаўленне да ўсіх можа быць суб'ектыўным. Са свецкім трэнерам такога няма. На сваім прыкладзе магу засведчыць: каманда паважае трэнера як аўтарытэт у футбольнай справе і прыслухоўваецца да яго парадаў.

**Ілья ЛАПАТА, Catholic.by (у скарачэнні)**



Фота Віталя ПАЛІНЕЎСКАГА.

Нападаючы кс. Францішак Рудзь падчас размінкі дэманструе выдатную фізічную форму.

ПЕРШАЯ ЛІГА

## "Смаргонь" фінішавала чацвертай у першай лізе

**СМАРГОНЬ. Апошні матч сезона футбольны клуб "Смаргонь" правозіў 22 лістапада ў Слоніме супраць аднайменнай каманды.**

Няўдала згуляўшы ў папярэдніх двух турах, "чырвона-чорныя" страцілі ўсе шанцы на трэцяе месца ў выніковай табліцы. Але гарэлі жаданнем адстаяць чацвертую пазіцыю, каб выканаць мінімальную задачу на сезон.

Матч прайшоў у неспрыяльных умовах надвор'я. У Слоніме і за некалькі дзён да гульні, і ў дзень матча ішоў снег. На такім полі футбалістам было вельмі складана гуляць у хуткі і тэхнічны футбол. Тым не менш небяспечных момантаў было дастаткова.

Смаргонскія футбалісты ў першай палове матча мелі некалькі магчымасцяў для ўзяцця варот, але атакуючых гульцоў зноў і зноў падводзіла рэалізацыя. Прыходы **Уладзіміра Казко** і **Аляксея Сквернюка** завяршаліся навесамі ў штрафную гаспадароў, але ў **Юрыя Мархеля** не атрымлівалася іх давесці да забітага гола.

Адзначу і галкіпера слонімцаў **Яўгена Мялікa**, які часам паказваў цуды варатарскага майстэрства і выратоўваў каманду.

У другім тайме гаспадары дадалі ў атакуючых дзеяннях. Усё часцей сталі турбаваць варатара смаргонскага клуба **Радзівона Жука**. Яго, дарэчы, потым прызналі лепшым у складзе гасцей у гэтай гульні.

У выніку другі тайм прайшоў у роўнай барацьбе. Але, на жаль, гола гледачы так і не ўбачылі. Нічыя 0:0.

Галоўны праследавальнік смаргонцаў, клуб "Іслач", таксама страціў ачкі. Каманда згуляла ўнічыю з мазырскай "Славіяй". А "Гарадзея" і "Рэчыцы-2014" сваіх перамог не хапіла для таго, каб абысці "Смаргонь" ў табліцы.

**У выніку ФК "Смаргонь" фінішаваў на чацвертым радку, тым самым выканаў задачу-мінімум на сезон.**

### Мікалай Рындзюк – другі сярод бамбардзіраў

За апошнія пяць год з кожным сезонам "чырвона-чорныя" ў выніковых табліцах займалі месцы ўсё вышэйшыя. У 2010 годзе было 12 месца, у 2011 – 11-е, у 2012 – 10-е, у 2013 – 6-е, а ў 2014 – чацвертае. Прагрэс – відавочны.

У другі раз запар у тройку лепшых бамбардзіраў сезона трапляе гулец смаргонскага клуба. У мінулым сезоне **Сяргей Крот** стаў лепшым з 17 забітымі мячамі. У гэтым сезоне **Мікалай Рындзюк** забіў 18 мячоў і размясціўся на другім радку.



Фота Максіма ДЗМІТРЫЕВА, sportswinv.com.

Мікалай Рындзюк стаў другім па выніковасці ў чэмпіянаце.

Сезон 2014 года скончаны. ФК "Смаргонь" дзякуе заўзятарам клуба за падтрымку на працягу ўсяго турніру. За тое, што, нягледзячы на паражэнні, заставаліся з камандай і верылі ў тое, што мы зможам дамагчыся пастаўленай мэты.

**Уладзімір АМБРАСЕВІЧ, Смаргонь.**

НАВІНЫ

### "Дынама-Маладзечна" перамагло па булітах

**МАЛАДЗЕЧНА.** Хакеісты "Дынама-Маладзечна" ў першым дамашнім паядынку пасля турнэ па Гродзенскай вобласці сустракаліся 21 лістапада з "Гомелем". І саступілі з лікам 1: 4. У гаспадароў вызначыўся **Ілля Казнадзей**.

Завяршылі серыю з дзвюх дамашніх гульняў дынамаўцы праз два дні перамогай над жлобінскім "Металургам".

Першы перыяд застаўся за "зубрамі". Але шайба ўпарта не хацела залятаць у сетку варот.

У пачатку другой дваццаціхвілінкі каманды абмяняліся вострымі атакамі. Потым добры шанец вызначыцца быў у **Аляксея Скабелкі.** Але нападаючы не змог падняць шайбу, каб перакінуць галкіпера гасцей, які ўжо ляжаў на лёдзе.

Не было галоў ні ў трэцім перыядзе, ні ў авертайме.

Затое гледачы сталі сведкамі двух ўзяццяў варот у серыі пасляматчавых кідкоў. Два адбітыя **Паўлам Шэгалам** буліты, а таксама дакладныя кідкі **Станіслава Лапачука** і **Аляксея Скабелкі** прынеслі дынамаўцам мінімальную перамогу над "Металургам", паведамляе hcdinamo.by.

### Выратавальнікі сталі чэмпіёнамі раёна па валейболе

**ВІЛЕЙКА.** Скончыўся чэмпіянат Вілейскага раёна па валейболе.

У апошняй сустрэчы чацвертага тура каманда "Энергазбыту" абыграла 3:0 прадстаўнікоў аддзела адукацыі спорту і турызму.

У пятым туры сустракаліся лідары. Супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях перамаглі "Энергазбыт" 3:1. У іншай гульні аддзел адукацыі, спорту і турызму быў мацнейшы за ЖКГ 3:2, расказаў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы "Сатурн" **Аляксандр Вайда**.

Такім чынам, першае месца ў чэмпіянаце заняла каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях. На яе рахунку 21 ачко, розніца партый 24-8.

На другім месцы – "Энергазбыт" (17 ачкоў, розніца партый 20-10).

Замкнуў тройку прызёраў "Першы Беларускі" з 14 ачкамі (па партыях 16-15).

### Чатыры медалі заваявалі вілейскія каратысты

**ВІЛЕЙКА.** У Мінску 15 лістапада прайшло адкрытае рэспубліканскае першынство па традыцыйным каратэ. Каманды пераважна прадстаўлялі Мінск. Былі яшчэ каратысты з Мазыра, Барысава, Вілейкі.

Віляйчане на гэтым турніры ўзялі адно срэбра і тры бронзы, расказаў трэнер клуба "Самурай" **Сяргей Кірыевіч**.

Найлепшы вынік – на рахунку **Улада Закрэўскага**. Ён быў другім у вагавай катэгорыі да 50 кілаграмаў сярод удзельнікаў 12-13 год.

Трэція месцы ў сваіх узроставых групах заваявалі **Улад Корсак** і **Аляксей Дзяруга**. А **Мікіта Кірыевіч** быў трэцім у камандным кумітэ.

Крыху не хапіла да прызавога месца **Аляксандру Ярашонку** і **Яну Раманоўскаму**. Яны занялі чацвертыя месцы.

### У гіравым спорце перамог выратавальнік

**МЯДЗЕЛ.** У суботу, 22 лістапада, у фізкультурна-аздараўленчым цэнтры "Мядзел" прайшлі спаборніцтвы па гіравым спорце. Перамог **Сяргей Багуцкі** з каманды райаддзела па надзвычайных сітуацыях. Ён узняў 24-кілаграмовую гіру 144 разы.

### Турнір у "Надзеі"

**ВІЛЕЙКА.** У дзіцячым цэнтры "Надзея" 22 і 23 лістапада праходзіў шосты штогадовы турнір па валейболе сярод дзіцячых камандаў агульнай і сярэдняй адукацыі Вілейскага раёна і гэтага цэнтра.

Дзяўчаты спаборнічалі 22 лістапада. Удзельнічалі восем камандаў.

Перамаглі прадстаўнікі цэнтра "Надзея". На другім месцы – каманда Мацькаўскай сярэдняй школы, на трэцім – Людвіноўскай СШ.

Лепшымі гульцамі прызналі **Алесю Ашарчук** (ДРАЦ "Надзея"), **Любоў Ляшкевіч** (Мацькаўская СШ) і **Лізавету Бабкевіч** (Людвіноўская СШ).

У спаборніцтвах юнакоў у нядзелю прыняло ўдзел дзевяць камандаў.

Мацнейшымі былі прадстаўнікі гімназіі №1 "Логас". Другое месца заваявалі вучні Людвіноўскай СШ, трэцяе – Даўгінаўскай СШ.

Лепшымі гульцамі сталі **Анатоль Крэпскі** (гімназія №1 "Логас"), **Раман Пабойнеў** (Людвіноўская СШ) і **Яўген Гурновіч** (Даўгінаўская СШ), **Дзмітры Рубан** (Любанская СШ)

Лепшыя каманды ўзнагародзілі пераходным кубкам, граматамі і грашовымі прэміямі. А лепшыя гульцы атрымалі каштоўныя прызы. Прызы прапанаваў дзіцячы цэнтр "Надзея". Распавёў пра гэты турнір Аляксандр Вайда.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Камент-эксперт Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Барыс Харэвіч даказвае, што на гармоніку можна не толькі на прызбе іграць

Вельмі добры музыка і чалавек. Цікавы субяседнік, надзейны таварыш і калега. Яго выступленні ў гімназіі – гэта падарунак для кожнага. Творы ў яго выкананні захопліваюць. Вельмі рада і ганаруся знаёмствам з Барысам Пятровічам. Дай вам бог здароўя, творчасці, сіл, натхнення. ***Вольга Віктараўна.***

### Бацькам дзяцей да 3 год прапануюць цалкам аплачваць дзіцячы садок. Мама: 1,5 млн. за сад?!

Не ад добрага жыцця бацькі аддаюць дзіця ў два гадкі ў садок, а толькі каб выйсці на працу, каб можна было купіць паесці... Бо дзіцячую дапамогу даюць на дзіця, а маме, атрымліваецца, трэба на сябе "забіць", а тата павінен і сябе пракарміць, і маму, і за кватэру заплаціць, і калі хто захварэе, лекі набыць, а калі яшчэ адзенне трэба... Усё, слоў няма. А калі не адно дзіця? Вар'ятня. ***МАМА.***

### 18-гадовая дзяўчына рабіла спайсы і хавала на могілках

Гэта ж як ужо распаўзлася вакол нас гэтая зараза, што вясковая дзяўчына ў 15-16 гадоў магла недзе здабываць наркотыкі... ***Эва.***

### Жыхар Смаргоні супакойваў суседа і сам трапіў пад следства

Бедалага... Правільна ўсё зрабіў, а цяпер і тэрмін упаяюць... ***Sh@m@n.***

### Дзяржкантроль праверыў вілейскі аўтапарк: зрывае рэйсы і не прыносіць грошы

А маладзечанскі аўтапарк што, лепшы? Прывяду адзін з маршрутаў Маладзечна-Чысць. НіВОДНАГА РАЗУ!!! аўтобус не прыехаў своечасова. Спазняецца выезд з Чысці на 10-30 хвілін. Здаецца, і нямнога, але для начальніка, які чакае падначаленага на працы ў час, важкі аргумент. ***Я.***

### На канцэрт арганнай музыкі ў Гервятах могуць прыехаць ахвотныя

Я ўпэўненая, што гэта будзе дзівоснае прадстаўленне, таму што яно будзе адбывацца ў адным з найпрыгажэйшых касцёлаў... ***Эва.***




## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Настассі РОЎДЫ.

**Вераніка Кажэка разам з сынам Сцяпанам на шпацыры ў маладзечанскім парку. Як распавяла маладая маці, ад першага снегу сын у захапленні. Сцёпа ўжо паспеў з татам Паўлам зляпіць снегавіка і палавіць сняжынкі. А ў малодшай дачкі Веранікі, Любові, на днях быў першы шпацыр у жыцці. Ёй усяго тры тыдні.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | | | | 4 | 8 | 2 | |
| | | | | | | | | |
| 8 | 1 | | | | | | 3 | 6 |
| | | | | 4 | 2 | | | |
| 3 | 7 | 1 | | 9 | | 4 | 6 | 2 |
| | | | 6 | 1 | | | | |
| 7 | 9 | | | | | | 4 | 3 |
| | | | | | | | | |
| | 4 | 2 | 5 | | | | | 9 |



Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## РЭПЕРТУАРЫ

### Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Мядзведзі-суседзі**", 3D (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
30 лістапада – у 13:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Сямейная анімацыя "**Махні крылом**" (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
29 лістапада – у 14:30
30 лістапада – у 15:00
3 снежня – у 17:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка "**Інтэрстэлар**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
29 лістапада – у 16:30
3 снежня – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя "**Дзень дурня**" (Расія, 2014, пасля 16 год)
1 снежня – у 19:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастычныя прыгоды "**Галодныя гульні: Сойка-перасмешніца**" (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
28 лістапада, 4 снежня – у 19:00
30 лістапада – у 21:00 (цана білета: 45 000 )
29 лістапада – у 22:00
2 снежня – у 21:30 (45 000 руб.)

Анімацыя, камедыя, прыгоды "**Пінгвіны Мадагаскара**", 3D (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
28 лістапада, 1 снежня – у 21:30
29 лістапада – у 20:00
30 лістапада, 3 снежня – у 19:00
2 снежня – у 19:30
4 снежня – у 17:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Прыгоды "**Дзяржаўная мяжа. Фільм дзявяты: кур'еры страху**" (Беларусь, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
28, 30 лістапада – у 17:00
1, 2 снежня – у 17:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Нязносныя босы-2**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
4 снежня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Мультфільм, сямейны "**Олі і скарбы піратаў**" (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
29 лістапада – у 15:00
30 лістапада – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прыгоды "**Мост у Тэрабітыю**" (ЗША, 2011, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
28 лістапада – у 16:30 (цана білета: 15 000 )
29 лістапада – у 17:00
30 лістапада – у 14:00 (20 000 рублёў)

Меладрама "**Пампеі**" (Канада, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
28 лістапада – у 18:30
29 лістапада, 1 снежня – у 21:00
30 лістапада – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Крымінальны трылер "**Мерзлая зямля**" (ЗША, 2011, пасля 16 год)
28 лістапада – у 21:00
29 лістапада – у 19:00
30 лістапада – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма "**Я не вярнуся**" (Беларусь, Казахстан, Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
2 снежня – у 19:00
3 снежня – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**13-ы раён: Цагляныя асабнякі**" (Францыя, 2013, пасля 16 год)
2 снежня – у 21:00
3 снежня – у 21:30
4 снежня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя "**Вясёлыя рабяты**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
4 снежня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

### Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Спакуснік 2**" (Германія, з 16 год)
28 лістапада – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Баявік "**Рэйд 2**", (Інданэзія, з 18 год)
28, 29, 30 лістапада – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Прыгоды "**Мост у Тэрабітыю**" (ЗША, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29 лістапада – у 18:00
Цана білета – 20 000 рублёў

Анімацыя "**Неверагодныя прыгоды ката**" (Францыя, без узроставых абмежаванняў)
29, 30 лістапада – у 15:00
Цана білета – 12 000 рублёў

Крымінальны баявік "**Пластык**" (Вялікабрытанія, з 16 год)
30 лістапада – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя "**Спакуснік 2**" (Германія, з 16 год)
28 лістапада – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Неверагодныя прыгоды ката**" (Францыя, без узроставых абмежаванняў)
29, 30 лістапада – у 15:30
Цана білета – 10 000 рублёў

Прыгоды "**Мост у Тэрабітыю**" (ЗША, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
29 лістапада – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Баявік "**Рэйд 2**", (Інданэзія, з 18 год)
30 лістапада – у 20:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

### Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Казка пра Ямелю**" (чароўная казка), *Я.Тарахоўская* (рус.мова)
30 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73, 76-84-27.**

## ГАРАСКОП

**28 ЛІСТАПАДА – 4 СНЕЖНЯ**

**Авен.** Вас стрымлівае страх. А гэта ілюзія. Большасць таго, чаго мы баімся, ніколі не здараецца. Але нават калі і здараецца, то часта аказваецца не такім дрэнным, як мы думалі.

**Цялец.** Забудзьце пра злосць. Задавальненне ад яе праходзіць праз некалькі хвілін. А вось наступствы могуць цягнуцца доўга. Слухайце свае эмоцыі і, калі прыходзіць злосць, рабіце крок у супрацьлеглы бок.

**Блізняты.** Траціце грошы па сваіх магчымасцях і не залазьце ў даўгі. Жывіце свабодна. Даўгі не дазволяць вам гэтага зрабіць.

**Рак.** Будзьце адкрытыя і шчырыя – гэта здорава, гэта лекі. І гэта дае магчымасць людзям верыць вам і дзяліцца з вамі сваімі эмоцыямі, а вы можаце дзяліцца з імі ў адказ.

**Леў.** Штодзённа ў галаве праносяцца тысячы думак. Шмат якія з іх – негатыўныя, нават палохаюць. Не верце ім. Гэта толькі думкі, і яны не стануць рэальнасцю, калі вы ім не дапаможаце.

**Дзева.** Калі вы не можаце вызначыцца, купіць канапу ці адправіцца ў падарожжа, – заўсёды выбірайце другое. Радасць і станоўчыя ўспаміны нашмат лепш за матэрыяльныя рэчы.

**Шалі.** Як часта вы весяліцеся? Жыццё кароткае, і трэба атрымліваць асалоду ад яго. І не трэба думаць, што падумаюць іншыя, калі вам добра.

**Скарпіён.** Часцей успамінайце пра дабрыню. Невялікая яе порцыя можа тварыць цуды з навакольнымі людзьмі. І патрабуе ад вас малых намаганняў.

**Стралец.** Заняткі спортам пастаянна павінны стаць часткай вашага ладу жыцця. Гэта зробіць вас больш моцнымі фізічна, маральна і эмацыйна. Таксама палепшыць здароўе і знешні выгляд.

**Казярог.** Жыццё сумнае без мэты. Вырашыце, што важна для вас, і пабудуйце сваё жыццё вакол гэтага.

**Вадалей.** Перамены заўсёды да лепшага. Жыццё мяняецца, і не трэба гэтаму супраціўляцца. Не бойцеся змяненняў, плывіце ў патоку і ўспрымайце жыццё як прыгоды.

**Рыбы.** Узрост – гэта лічба. Калі вам 20, вы думаеце, што 50 – гэта кашмар. Але калі вам 50, вы адчуваеце, што вам 30. Наш узрост не павінны вызначаць нашых адносін да жыцця. Не давайце лічбам мяняць вас.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006
Рэгіянальная газета. Rh.by
ТэлетыДзень 27





## НАДВОР'Е

**29 лістапада субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -7 / -6 | | -8 / -6 | | -6 / -5 | | -7 / -5 | |
| | 752 | ← 3 | 753 | ↙ 4 | 751 | ↓ 4 | 753 | ↙ 5 |
| Вільня | -5 / -3 | | -8 / -4 | | -6 / -5 | | -7 / -3 | |
| | 761 | ← 2 | 762 | ↙ 2 | 761 | ↓ 3 | 762 | ↙ 3 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.07
Захад 16.54
Даўжыня дня 7.47

Усход 13.45
Захад -
Квадра 1

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | -8 / -5 | 759 | ↓ 5 |
| Гродна | -10 / -7 | 761 | ↓ 1 |
| Мінск | -1 / +1 | 750 | ← 1 |
| Магілёў | -8 / -4 | 759 | ↙ 2 |
| Брэст | -7 / -4 | 759 | ← 2 |
| Гомель | -6 / -4 | 761 | ↓ 3 |

## ПРЫКМЕТЫ

- Піліпаўка (28 лістапада). Пачынаецца пост перад Калядамі.
- Асенні мароз не выцісне слёз, а зімовыя марозы – з вачэй слёзы.
- 4 снежня. Праваслаўнае свята Увядзенне. "Увядзенне прыйшло – зіму прывяло".

**Прагноз надвор'я прадстаўляе ДЭЛЬТА БАНК**



















Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 48 (1022) 28.11.2014. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1559. Падпісана ў друк у 9.00 27.11.2014.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020